№11(32)
2001г.
лістапад

# ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Грамадска - палітычная, асветніцкая газета

Выдаецца са жніўня 1996 г.

Кошт свабодны

*У Зембіне знішчаны будынак, у якім нарадзіўся і жыў сусветны класік яўрэйскай літаратуры* **Ізі Харык**

*Чытайце на старонцы* **12**

## 25 лістапада на Барысаўшчыне ішлі баі, было чуваць выбухі

### Гэта на Брылёўскім полі адбывалася рэканструкцыя тамтэйшых падзеяў 189-і гадовай даўніны



*Падрабязнасці чытайце на старонках* 8-9



## Іншай прыгажосці не бывае

Наша газета неаднойчы пісала пра актуальнасць зялёных насаджэнняў у горадзе.

Безумоўна, абнаўляць іх трэба, і часта без высечкі старых і хворых дрэў не абысціся. Але ці можа быць вуліца зусім без дрэў? Відавочна, што не.

Аказваецца, пры рэканструкцыі ходнікаў уздоўж гандлёвых радоў устарым горадзе замест спілаваных дрэў пасадка новых не запланавана.

Прыгажосць павінна быць натуральнай. Іншай прыгажосці не бывае.

***М.Пучыла***

## Яшчэ адзін даўгабуд

Ужо не адзін раз наша газета пісала пра даўгабуды. Непрыемна, што ў гэты спіс трапіла і новая школа, бо школы заўсёды былі прыярытэтнымі аб`ектамі.

У №2 2000 года я з захапленнем пісаў пра пачатак будаўніцтва новай школы па вуліцы Трусава. Пісаў пасля таго, як палюбаваўся макетам новай школы ў кабінеце загадчыка ГАРАА.

Але аб`ектыўныя прычыны, гэта значыць адсутнасць сродкаў, не дазволілі школе ўзняцца вышэй падмурка. А цяпер і зусім вывозяцца пліты і блокі, здымаецца агароджа. Як паведамілі нам у кіраўніцтве капітальным будаўніцтвам горада, здымуць нават вартаўнікоў, каб марна не губляць грошы.

Бывай, школа, да лепшых часоў!

***М.Пучыла***

## Страшна...

Перада мной сядзіць старая, але прыгожая жанчына. Светлаблакітныя вочы, кучаравыя сіваватыя валасы абрамляюць твар. Размаўляем пра даўніну. Расказвае ахвотна, але позірк сумны. І раптам, без пераходу, кажа: “Асталася я адна, у аўторак сына пахавала”. І распавядае: “Рыхтаваў разам з сябрам дровы. Вечарам, пасля працы, прапанаваў пайсці да суседкі выпіць па шклянцы гарэлкі. Сябра адмовіўся, а ён пайшоў. Выпіў не шмат. У тры гадзіны ночы ўстала - неяк незвычайна ціха. Паглядзела, а яго ўжо няма. 46 гадоў. Напісалі ў шпіталі: атручванне. Пра суседку даўно ведаем, што дадае тэхнічны спірт у гарэлку.” Плача...

І сын, мабыць, ведаў, але пайшоў. І суседка ведае, што цераз яе не стала чалавека. І зноў займаецца сваёй працай. Для новых ахвяр...

Страшна...

***Е.Граковіч***

## Дарагая паслуга

На 30% даражэй стаў праезд аўтобусамі прыгараднага і міжгародняга накірунку. Квіток на паездку аўтобусамі гарадскіх ліній цяпер каштуе 80 рублёў. Цікава, што пакуль не змяніўся кошт камерцыйных маршрутаў, па-ранейшаму гэта 150 рублёў, а вось кошт праезду на хуткасных аўтобусах стаў цяпер 160 руб. Добра выручаюць барысаўцаў камерцыйныя мікрааўтобусы. Праезд у іх застаўся на ўзроўні 200-300 рублёў.

***Служба інфармацыі “ГБ”***

*Карэспандэнцкі пункт нашай газеты знаходзіцца па адрасе:* ***пр-т Рэвалюцыі, 33***
*Чакаем вас у* ***аўторак*** *з* ***15*** *па* ***17*** *гадз.,*
*у* ***чацвер*** *з* ***10*** *па* ***11*** *гадз.*
*У гэты ж час тэлефануйце нам па тэлефоне* ***6-35-81***

***Падпісвайцеся на газету “Гоман Барысаўшчыны”!***

***Кошт індывідуальнай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **250** руб., на **3** месяцы - **750** руб.
***Кошт індывідуальнай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **550** руб., на **3** месяцы - **1650** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі без тэлевізійнага дадатку:***
на **1** месяц - **350** руб., на **3** месяцы - **1050** руб.
***Кошт ведамаснай падпіскі з тэлевізійным дадаткам:***
на **1** месяц - **750** руб., на **3** месяцы - **2250** руб.

## Ад нумара да нумара

**Памяць**

*У дзень 60-годдзя расстрэлу барысаўскіх яўрэяў нямецкімі захопнікамі на яўрэйскіх могілках адбыўся памінальны мітынг, а ў гарадскім Палацы культуры - канцэрт-рэквіем.*

***

*2 лістапада на "Батарэях" сябры грамадскай арганізацыі "Дзеля памяці ахвяр палітычных рэпрэсій" правялі мітынг і ўстанавілі памятны знак у выглядзе крыжа. Праз пару дзён крыж знік.*

**Візіт**

*2 лістапада Барысаў наведаў новы міністр аховы здароўя У.А.Астапенка. Міністр абяцаў дапамагчы гораду ў рамонце паліклінікі №1, раддома і ў будаўніцтве аздараўленчага цэнтра, які распачалі будаваць 10 гадоў таму назад ды "замарозілі".*

**Акцыі**

*23 кастрычніка маладзёвы рух "Зубр" правёў акцыю "Час убіраць". Маладыя людзі прынеслі да будынка гарвыканкама некалькі мяхоў са смеццем.*

***

*Барысаўскі райвыканкам і раённая арганізацыя БПСМ праводзяць з 1лістапада па 25 снежня 2001года акцыю "Падзяліся марай". Пра сваю мару можна напісаць па адрасе : Барысаў, пр. Рэвалюцыі, 37, аддзел па справах моладзі.*

**Дапамога**

*Швейцарыя ахвяравала 100 тысяч даляраў для таго, каб адрамантаваць печы і электраправодку ў хатах адзінокіх і састарэлых людзей Барысаўскага раёна. Ажыццяўленне праекта пачынаецца ў канцы лістапада.*

***

*Дапамога маладым маці, якая зараз складае ў сярэднім 23 тысячы рублёў, будзе павялічана да 34 тыс.руб. Пераглядацца памер дапамогі будзе штоквартальна.*

**Выставы**

*Барысаўская офісная мэбля, прадстаўленая ААТ "Барысаўскі ДАК" на выставе "Мэбля-2002" у Менску, звярнула на сябе ўвагу аптовых пакупнікоў. Было падпісана некалькі карысных дамоўленасцей.*

***

*З 29 кастрычніка па 2 лістапада ў Менску адбылася выстава прамысловых прадпрыемстваў Беларусі. Прамысловасць Барысава была прадстаўлена вырабамі фабрыкі "Піяніна", шклозавода, завода бытавой хіміі, прыборабудаўнічага завода.*

**Злёт**

*На 4 Рэспубліканскім злёце юных выратавальнікаў-пажарных каманда Менскай вобласці была другой. У склад каманды ўваходзілі вучні 20 СШ і Барысава і школьнікі г.Жодзіна.*

**Суботнік**

*Больш 13 тысяч рабочых, служачых і навучэнцаў Барысава працавалі на суботніку 27 кастрычніка. Сродкі (17 млн.276 тыс.руб) пайшлі на будаўніцтва Менскай абласной дзіцячай клінікі ў п.Лясным Менскага раёна.*

**Правa**

*У Цэнтральнай гарадской бібліятэцы (на 3-м паверсе) адчыніўся публічны цэнтр прававой інфармацыі. Тут барысаўцы змогуць атрымаць афіцыйную інфармацыю па прававых пытаннях.*

**Новы рынак**

*Па вуліцы Працы, 37 (на тэрыторыі былой аўтастаянкі) пачаў працаваць аўтарынак. Адначасова тут можна выставіць на продаж 77 аўтамабіляў. Акрамя таго, тут будзе існаваць гандаль запчастакмі і іншымі аўтапрыладамі.*





*Вуліца Урыцкага "ўпрыгожана" газавымі трубамі (злева).*

*Гэтак жа выглядае вуліца Лапаціна (знізу)*

# Жыццё па законах тундры

"А ў нас у кватэры газ". Зараз не толькі ўладальнікі квадратных метраў у шматпавярхоўках, але і паважныя гаспадары ўласных дамоў могуць пахваліцца такой выгодай. Усё больш становіцца вуліц у горадзе, куды падведзены прыродны газ.

Але вось, едучы па вуліцы Урыцкага, яе не пазнала. Здалося, што трапіла ў цэх нейкага нафтаперапрацоўчага камбіната. Газавыя трубы, узнесеныя над платамі, аплятаюць вуліцу і зусім яе не ўпрыгожваюць.

Успомніліся пасёлкі на Поўначы, дзе па вуліцах высока над зямлёй пракладзены ніткі цеплатрас. Ніткамі іх можна назваць толькі ўмоўна, бо трубы гэтыя таўшчэзныя і зверху ўкручаныя ізаляцыйным матэрыялам, які звычайна выглядае вельмі неахайна. Але там з гэтым мірацца, бо трубы нельга пакласці ў вечную мерзлату, а пытанне цяпла на Поўначы - гэта пытанне жыцця і смерці.

Не ведаю, можа і ў нас нельга пакласці газавыя трубы ў зямлю, хоць наш пясочак не параўнаеш з мерзлай паўночнай глебай. Але навошта ж так псаваць выгляд нашых вуліц?

Здзіўляе і пазіцыя жыхароў. Няўжо ім не прыкра глядзець на тое, што зрабілі з іх вуліцай. Праводзілі ж такім чынам газ, напрыклад, на вуліцах Залінейнага раёна. Але ж там трубы неяк схаваны на задворках, на гародах, і яны не назаляюць вачам перад фасадамі дамоў. Маглі ж гэтак рабіць усяго некалькі год таму назад?

А што зараз? Няўжо дзічэем пакрысе, і, акрамя матэрыяльных выгод, ужо нішто іншае не цікава? Прыгажосць – ужо раскоша?

*Е.Граковіч*

# Адзіны дзень бяспекі руху

*Два гады запар кожную апошнюю пятніцу месяца гарадская аўтаінспекцыя праводзіць "Адзіны дзень бяспекі руху". У праграму дня ўваходзіць не толькі ўзмоцнены кантроль за дарожным рухам на вуліцах горада і раёна, але і шырокі шэраг прафілактычных мерапрыемстваў.*

26 кастрычніка 48 супрацоўнікаў ДАІ прыйшлі ў навучальныя ўстановы і на прадпрыемствы горада правесці размовы аб правілах паводзінаў на дарозе. Ім дапамагалі нештатныя супрацоўнікі, выкладчыкі школ і вучылішчаў. Было праведзена 65 размоў, начальнік ДАІ выступіў па тэлебачанні. На вуліцах горада ўсталяваны два інфармацыйных шчыты.

Бяспека руху залежыць ад усіх яго ўдзельнікаў, таму вялікая ўвага надаецца прафілактыцы парушэнняў правілаў дарожнага руху пешаходамі. Яны часта становяцца ахвярамі дарожна - транспаргных здарэнняў. Прычым статыстыка здарэнняў за гэты год гаворыць пра тое, што роўна ў палове здарэнняў з удзелам пешаходаў павінны самі пешаходы.

За суткі дзяжурства супрацоўнікамі ДАІ з дарогі было прыбрана двое пешаходаў, якія не былі здольны рухацца самастойна. Усяго за парушэнне правілаў дарожнага руху было аштрафавана 152 удзельнікі дарожнага руху, у іх ліку пешаходаў – 42. Пяцёра вадзіцеляў затрыманы ў нецвярозым выглядзе, двое – без правоў. Цалкам вынікі ўзмоцненага кантролю на дарогах нязначна перавышаюць колькасць затрыманняў у звычайныя дні, што, дарэчы, гаворыць пра стабільную працу дарожнай інспекцыі.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Галоднымі не будзем?

Галоднымі не будзем, але і хваліцца няма чым. Прыкладна так можна выказацца па выніках працы нашых калгасаў у гэтым годзе. Ураджайнасць зерня і бульбы па-ранейшаму падае, нават у параўнанні з мінулым годам.

У гэтым годзе намалочана зерня 43397 тон, ураджайнасць склала 16,5 цэнтнераў з гектара. У мінулым годзе намалацілі 47855 тон пры ўраджайнасці 17,9 цэнтнераў з гектара.

А бульбы ў гэтым годзе накапалі 7642 тоны з ураджайнасцю 82 цэнтнеры з гектара. летась было 14767 тон пры ўраджайнасці 179 цэнтнераў з гектара.

Пры такім "паступальным" руху праз колькі год , можа і праўда, будзем галадаць?

*Служба інфармацыі "ГБ"*

## Ад нумара да нумара

**Знаходка**

*На сваім агародзе на глыбіні 1,5 м знайшоў 100-міліметровы артылерыйскі снарад жыхар вуліцы Энгельса. Снарад быў адвезены на Барысаўскі палігон і ўзарваны.*

**Нездароўе**

*Больш трыццаці працэнтаў прызыўнікоў, якія павінны былі ісці ў войска гэтай восенню, былі прызнаны непрыгоднымі да службы па стану здароўя.*

**Размовы**

*З 31 кастрычніка павялічаны тарыфы на міжнародныя размовы. Хвіліна размовы з Расіяй будзе каштаваць 341 руб. (па ільготнаму тарыфу –227 руб.), з Латвіяй, Літвой і Польшчай – 416 руб. (277 руб.), з Нямеччынай – 396 руб. (264 руб.), з ЗША – 1124 руб. (612).*

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Рэгіянальны сход сяброў БНФ

У апошнія дні кастрычніка ў Барысаве адбыўся рэгіянальны сход сяброў руху БНФ "Адраджэнне" і партыі БНФ. На ім прысутнічалі прадстаўнікі Барысава, Жодзіна і Крупак, а таксама госці з Менску – старшыня БНФ Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч і інш.

Было абмеркавана становішча на Беларусі, якое склалася на Беларусі пасля выбараў, абраны дэлегаты на з'езды руху і партыі БНФ.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Хто найбольш свядомы

Думаю, што правільным было рашэнне выканкама аб тым, каб даць магчымасць ахвяраваць свае сродкі працоўным калектывам і асобным грамадзянам на добраўпарадкаванне горада. Калі кожны з нас будзе ведаць, што і яго ўласны рубель пайшоў на гарадскую чысціню і прыгажосць, дык, можа, і берагчы будзем усе гэта.

Цікавая інфармацыя стала вядомай грамадскасці горада: выключаючы хіба што некаторыя заводы, найбольш сродкаў на патрэбы горада пералічылі настаўнікі ды ветэраны.

Сапраўды, багаты не той, у каго ў кішэні, а той - у каго за душой больш.

*М.Пучыла*

# Новы год ужо блізка

Яшчэ мы не бачылі сапраўднага снегу, а ў крамах горада пачаўся гандаль навагоднімі ўпрыгожваннямі. Адразу адчуваеш, што вясёлыя калядныя і навагоднія святы ўжо блізка.

Сёлета ў продажы даволі вялікі выбар штучных навагодніх ялінак. Большасць з іх расійскага вырабу. Кошт ялінак памерам ад 60 см да двух з паловай метраў ад 11-13 тысяч руб. да 195 тысяч руб. За дрэўца памерам 150 см трэба заплаціць 45-74 тыс.руб.

Шкада, што кошт ялінак для большасці гараджан непамерны. Хоць і не ўсім падабаецца ставіць штучную ялінку замест сапраўднай, але гэта больш цывілізаваны падыход. Колькі ж можна вынішчаць нашы лясы дзеля аднаго-двух тыдняў свята? Ды і тыя ялінкі, якія прапануе да продажу лясгас, прыгажунямі не назавеш. А ўспомнім, як валяюцца па дварах выкарыстаныя, памёрлыя ялінкі, пакуль не прыйдзе аднойчы машына, і дворнікі не звязуць тое, што ад іх засталося, на сметнік.



Прыгожую ялінку многія гараджане спадзяюцца прынесці з лесу самі, хоць і ведаюць, што гэта забаронена. Вось і рухаюцца ў ранніх зімніх прыцемках па лясных сцяжынках здані, палохаючыся адна адной. Ці прынясуць радасць скрадзеныя прыгажуні?

Выкарыстанне штучнай ялінкі мае свае выгоды: яе можна ставіць не адзін год, і яна не засмечвае пакой. Ды й дзеці нашы растуць усё больш экалагічна граматнымі, і многія з іх з задавальненнем бы ўпрыгожылі пакой штучнай ялінкай, разумеючы, што такім чынам берагуць родную прыроду.

*К.Сушынская*



На 1-ым Залінейным завулку.

# Тэлефон - у кожную хату!

Надзвычайнае ажыўленне назіраецца ў гэтыя дні на вуліцах Залінейнага раёна, а таксама ў вёсках Юшкевічы і Гара. Жвавыя хлопцы, узброеныя землярыйнай тэхнікай, вядуць установку тэлефонаў.

Тэлефоны ставяцца практычна кожнаму, хто гэтага пажадаў і асіліў заплаціць немалыя грошы за іх усталяванне. Да 1 снежня тут плануецца ўсталяваць 2 тысячы тэлефонных кропак. Людзі адной з самых адарваных ад цэнтра, гэта значыць, і ад выгод цывілізацыі, частак горада рыхтуюцца пачаць новае жыццё і перадаюць праз газету ўдзячнасць мантажнікам-тэлефаністам з "Менскаблтэлекома", якія вядуць гэтыя работы. Праўда, гэтую ўдзячнасць не падзяляюць людзі, якія адказваюць за водаправоды, бо ў запале ўдарнай працы хлопцы там-сям парвалі вадаправодныя трубы.

Што ж, "лес рубяць - трэскі ляцяць".

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Добры кірмаш слоты не баіцца

Кірмаш "Ураджай-2001", які адбыўся 28 кастрычніка на цэнтральнай плошчы горада, даў барысаўцам магчымасць запасціся на зіму таннай капустай, бульбай, морквай і іншай гароднінай. Тут жа барысаўцы набывалі венікі, лекавыя травы і мёд, якія прапанаваў Барысаўскі лясгас. Добра ішоў гандаль саджанцамі і расадай. Працаўнікі фірмы "Зубр" прывезлі саджанцы аж з Берасцейшчыны.

Рыбгас "Волма" з Чэрвеньскага раёна гандляваў рыбай. Багата было на кірмашы мяса і каўбас, малочных прадуктаў. Можна было набыць тое-сёе з абутку, адзення, гаспадарчых тавараў.

Ну і як заўсёды, на кірмашы можна было паласавацца рознымі прысмакамі, з'есці шашлык і паслухаць песні, якія выконвалі артысты з гарадскога Палаца культуры.

Нягледзячы на кепскае надвор'е, кірмаш прайшоў удала як для пакупнікоў, так і для гандляроў, якія атрымалі за гэты дзень немалы прыбытак.

*Служба інфармацыі "ГБ"*

# Гандаль па-барысаўску

У нядзелю 18 лістапада на рынак "Спатканне" заехала машына, якая прывезла жывую рыбу з рыбгаса. Толькі гандлярка сабралася распачаць гандаль, як да яе падышлі двое і пачалі перамовы. Пасля гэтага машына тут жа ад`ехала за агароджу рынка, і тры бочкі з жывымі карпамі і шчупакамі былі перагружаныя на два аўтамабілі у посуд перакупшчыкаў, а гандлярка атрымала грошы і з`ехала.

Адна з машын тут кудысьці паехала, а другая пераехала цераз дарогу, і з яе пачаўся гандаль рыбай. Цана за кілаграм рыбы была ўжо вышэйшая на 130 руб. Нягледзячы на гэта, за рыбай адразу выстраілася чарга, бо такога тавару больш на рынку не было.

Так абароцістыя перакупшчыкі хуткa"наварылі" 200-300 тыс. руб., а кожны з пакупнікоў аддаў некалькі зусім не лішніх у яго соцень рублікаў.

*Г.Пятровіч*

# Несвяточны настрой

Менавіта ён быў напісаны на тварах ветэранаў, якія прыйшлі да помніка Леніну ў чарговую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі. А прычынай адсутнасці аптымізму і святочнасці паслужыла наяўнасць на мітынгу вельмі малой колькасці людзей. Калі не лічыць выпадковых грамадзян, то ці было тут хаця б 100 чалавек.

Відаць, народны выраз "дрэнна, калі няма прымусу" сваім практычным увасабленнем і расчараваў удзельнікаў мерапрыемства.

*М.Пучыла*

# Дурныя жартачкі

Паведамленняў пра атрыманыя ў канвертах парашкі ў СМІ ўсяго свету столькі, што ўжо час перарабіць агульнавядомы лозунг на "Жартаўнікі і шантажысты ўсіх краін – яднайцеся!"

У Вільні такія пасланні атрымалі пасольства ЗША, Прэзентура Літвы і рэдакцыя папулярнай газеты "Рэспубліка". Ніякай сібірскай язвы ў канвертах не аказалася, а вось перапалоху было шмат. Больш за ўсіх пацярпелі людзі, якія адкрывалі недарэчныя пасланні: ім прыйшлося здаваць аналізы, даваць паказанні спецслужбам, пажарным, медыкам, адказваць на бясконцыя пытанні журналістаў. Літоўскі калега з "Рэспублікі" ад усёй душы паздзекаваўся над высілкамі паліцыі і спецслужбаў. Але, як высветлілася, дарэмна. Не прайшло і двух тыдняў, як у пасольства ЗША ў Вільні прыйшоў ліст з сапраўдным парашком сібірскай язвы. Так што жарты тут, як кажуць, не да месца.

У Беларусі таксама багата прыкладаў гэтакіх "жарцікаў". Газета "Пагоня" паведамляе пра чатыры выпадкі ў Гарадзенскай вобласці. У адным з лістоў, які быў адрасаваны на Менск, паштавікі выявілі дробна перацёртыя макароны з супу "King Lion".

Кальцыніраваную соду даслала сваёй каляжанцы настаўніца з Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Міліцыя аператыўна ўстанавіла яе аўтарства. Цяпер гэтую "вясёлую" кабету чакае суд. Тэрмін пакарання за такія жартачкі – да пяці гадоў пазбаўлення волі.

Ну і, зразумела, наш Барысаў не мог застацца ў баку ад сусветных падзей. Знайшліся і ў нас артысты такога жанру. 25 кастрычніка ў 5 паштовым аддзяленні пры сартыроўцы лістоў з аднаго канверта пасыпаўся белы парашок. Подпіс на канверце быў адпаведны: "Бен Ладэн". Міліцыя і спецслужбы праводзяць доследы па гэтай справе.

Учынкі гэтакіх "бен ладэнаў" – прыклад глупства і непавагі да людзей. Хацелася б, каб барысаўцы больш не пападалі пад уплыў гэтай дурной пошасці. Да таго ж, за такія жарты лёгка можна сесці за краты.

*Е.Гракoвіч*

# Уладкаванне выпускнікоў 9-х класаў школ Барысава

*Сёлета дзевяць класаў у школах горада скончылі 2360 вучняў. На пачатак верасня гэтыя падлеткі вызначылі свой напрамак дзейнасці наступным чынам:*




У цэлым выніку ўладкавання выпускнікоў за 2001 год адпавядаюць леташнім. Найбольшая колькасць тых, хто паступіў у ССНУ са школ №2, № 15, гімназіі № 2 - па 15 вучняў.

*Згодна даведкі вераснёўскай рады аддзела адукацыі.*
*Падрыхтаваў М.Пучыла*



# Лічбы і асобы

*Прайшло-прамільгнула 10 гадоў, як на адукацыйным полі горада з'явіўся першы ў вобласці агульнаадукацыйны ліцэй.*

*Сёння на матэматычным, фізіка-матэматычным, хіміка-біялагічным і філалагічным аддзяленнях ліцэя займаюцца 370 юнакоў і дзяўчат, якія, акрамя засвойвання агульнай праграмы сярэдняй школы, атрымліваюць грунтоўныя веды па абранаму профілю, што дазваляе ім паспяхова працягваць вучобу ў лепшых ВНУ краіны.*

*10 гадоў з гістарычнага гледзішча – тэрмін невялікі. Але па складанасці рашаемых задач і значнасці дасягнутых вынікаў трэба аддаць належнае педкалектыву ліцэя. З 40 настаўнікаў 20 маюць вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю, 14 – першую.*

*Калі падлетак на пытанне: "Дзе і ў каго ты вучышся?" – з гонарам адказвае: "У ліцэі, а настаўнік ў мяне Янчык М.К. альбо Шыдлоўскі У.У., Шумко Г.К., Нарышкін А.П., Белая Л.Ф., Рымша Т.Р., Гаўрыш Л.П., Саладар Г.І. і г.д.", - то можна быць упэўненым, што гэты вучань мае трывалыя веды і ўсвядомленую жыццёвую пазіцыю.*

*865 юнакоў і дзяўчат закончылі ліцэй, 15 з іх узнагароджаны залатымі медалямі, 45 – сярэбранымі.*

*849 выпускнікоў вучацца ў ВНУ або ўжо працуюць інжынерамі, настаўнікамі, урачамі, эканамістамі. 18 выпускнікоў працягваюць навучанне ў магістратуры або аспірантуры ВНУ.*

*Значныя здабыткі мае ліцэй у алімпіядным руху, у навукова-даследчай працы вучняў.*

*Педкалектыў ліцэя выказвае падзяку настаўнікам сярэдніх школ горада № 2, 7, 13, 15, 16, 18, 20, 23, гімназій № 2 і 3 за якасную падрыхтоўку вучняў, якія сёння паспяхова займаюцца ў ліцэі.*

# Слова пра ліцэй

***Дзесяць год!***
***За гэты тэрмін дрэва***
***Дзесяць раз убор зялёны зменіць,***
***Дзесяць пакаленняў салаўіных***
***Выкалыша на сваіх галінах,***
***Дзесяць залатых кругоў адложыць,***
***Як пярсцёнкаў, каля сарцавіны.***
***Што тады казаць пра чалавека!***

**М.Танк**



Апошнія 10 з 45 гадоў майго працоўнага стажу звязаны з ліцэем. У ім мне ўдалося ў значнай ступені рэалізаваць свае планы па стварэнню высокапрафесіянальнага педкалектыву, здольнага забяспечыць такі ўзровень ведаў вучняў, які дазволіць ім паступіць у любую ВНУ. Лічу свае ліцэйскія гады найбольш прадукцыйнымі ў сваім жыцці.

Жадаю кожнаму члену педкалектыву разумных і ўдзячных вучняў, ліцэістам знайсці сваё прызванне ў жыцці і ў поўнай меры рэалізавацца ў ім.

***А.С.Петракоўскі, дырэктар***



У ліцэі працую з часу яго заснавання. Тут створаны ўмовы для рэалізацыі ўсіх магчымасцей як вучняў, так і настаўнікаў. Тут пануе аўра дабрыні, творчасці. Ліцэй дае магчымасць адчуць сябе асобай. За гэта я ўдзячна лёсу і Петракоўскаму Анатолю Сямёнавічу. Гэта лепшыя гады майго жыцця.

***Г.К.Шумко, выкладчыца біялогіі***





Кожную раніцу, прыходзячы на працу, чытаю выраз "Ліцэй – ваш другі дом".

Так, другі дом, а можа і першы, бо часу тут праводзіш болей, чым ва ўласнай хаце (выключаючы сон, канечне), калег і вучняў бачыш часцей, чым сваякоў.

І што ж яшчэ ліцэй?

Часам настаўнікі з ранейшага месца працы пытаюцца:

- Як там у ліцэі працуецца?

- Як? Цяжка, лёгка, цікава, - адказваю. І радасна, - думаю пра сябе.

Цяжка…Так, усім нам, настаўнікам ліцэя цяжка, бо ўсе мы, як кажа наш дырэктар Анатоль Сямёнавіч, асуджаны на поспех.

Лёгка і цікава, бо дзеці добрыя, бо ведаць хочуць шмат, бо вучыцца жадаюць, бо на працу ісці хочацца…

Радасна бывае не так часта, затое радасць шчырая, і яркая, і шчымлівая, калі з"явіцца раптам няпрошаная слязінка радасці ў вачах…

***Рымша Т.Р., выкладчыца беларускай мовы і літаратуры***

Ліцэй – міні-дзяржава, маленькая дзяржава са сваімі няпісанымі законамі высакароднасці. Ліцэй – гэта і водгалас гісторыі, які захоўвае імёны вялікіх выпускнікоў Царскасельскага ліцэя. Але толькі ні ў якім выпадку ліцэй – гэта не мінулае. Гэта – наша будучыня. Магчыма, нават "фабрыка мрой", у сцэнах якой з проста таленавітых людзей вырастаюць маленькія геніі, каторыя стануць асновай светлай будучыні нашага грамадства.

***Т.Ф.Лімонова,выкладчыца беларускай мовы і літаратуры***

Мне цяжка вызначыць месца ліцэя ў маім жыцці. Ліцэй – маё месца работы. Першае і апошняе. Адзінае. Як Радзіма, як юнацтва, як мама.

Мне цяжка сказаць, ці добра для мяне гэта, ліцэй. Гэта як сям'я: тут дзякуеш і любіш, перажываеш і злуешся, вучышся і вучыш, сумуеш і радуешся. Словам, жывеш. Гэта ёсць, і гэта прымаецца як існасць.

Мне цяжка меркаваць, ці добра гэта, я – для ліцэя. Хочацца верыць, што добра і карысна, таму што ў адваротным выпадку мне было б нейк няўтульна, быццам і няма яго, майго месца пад сонцам.

Так я думаю, а ліцэй жыве ўжо 10 гадоў. Адзін вялізны жывы арганізм, у якім мноства "я" зліваецца ў спакойнае і ўпэўненае "мы", у якім маё сумненне і разважанне перарастае ў наш пошук і творчасць. І таму тут, у ліцэі, пануюць адказнасць і ўтульнасць, даросла клапатлівасць і дзіцячая прастата.

Адным словам, здарова! Хай так будзе і надалей.

Дзень добры, ліцэй!

***М.Г.Бяспалава, выкладчыца рускай мовы і літаратуры***

Я маю шчасце працаваць у ліцэі ўсе 10 год яго жыцця.

Гэтыя гады былі вельмі важнымі для майго духоўнага развіцця, для набыцця ўпэўненасці ў сабе, для ўсведамлення важнасці выбранага мною прафесійнага шляху.

Мае вучні дапамаглі мне зрабіць мноства адкрыццяў у сабе і ў людзях, яны вучылі мяне не рабіць паспешлівых вывадаў, здзіўляцца магчымасцям і здольнасцям чалавека, мае вучні дарылі мне шчасце радасці сваімі поспехамі, адкрыццямі, сваёй творчасцю.

Многае адбылося ў маім жыцці за гэтыя 10 гадоў, але галоўнае што было, гэта шчасце творчай працы.

Дзякуй табе, ліцэй!

Дзякуй вам, вучні!

***Белая Л.Ф., завуч, выкладчыца рускай мовы і літаратуры***

Ліцэй – гэта не проста месца работы, гэта месца сустрэч з аднадумцамі і сябрамі, месца, дзе кожны можа рэалізаваць свае задумы, ідэі.

Тут кожны новы дзень не падобны на ўчарашні, абяцае многа новых сустрэч, прыемных зносін і атрымання карысной інфармацыі.

У ліцэі зацікаўленыя, захопленыя вучні і выдатныя, вопытныя калегі-настаўнікі.

І гэты сплаў, як правіла, прыводзіць да дасягнення высокіх вынікаў.

***В.С.Астахава, выкладчыца інфарматыкі***

Ліцэй – гэта асаблівы свет, які дарагі мне. А яго юбілей – падстава для развагі.

Я мару пра ліцэй, дзе кожны вольны, вольны ад неразумення, ад няшчырасці, ад страху быць пакараным.

Я мару пра ліцэй, у якім кожны ўсвядомлена імкнецца да ведаў і знаходзіць велізарную радасць у пазнанні.

У ліцэі маёй мары ўсе добразычлівыя, паспяховыя, робяць лепшае з таго, на што яны здольныя.

Давайце імкнуцца быць дасканалымі!

***Ф.А.Радзіёнава,выкладчыца англійскай мовы***

Акрамя таго што ліцэй з'яўляецца месцам, дзе я зарабляю на жыццё, гэта яшчэ і месца, дзе я запатрабаваны, як спецыяліст.

Ліцэй – гэта калектыў, які працуе на вынік. Ліцэй – гэта добразычлівая адміністрацыя, каторая дапамагае, а не перашкаджае працаваць…

***В.М.Труфанаў, выкладчык нямецкай мовы***



У кабінеце англійскай мовы

## Геаграфія навучання выпускнікоў ліцэя ў ВНУ Беларусі




*Усяго паступае ў ВНУ **97%** выпускнікоў політэхнічнага ліцэя*


На ўроку гісторыі


"Мы з гонарам завемся - ліцэісты"

Політэхнічны ліцэй

# "Ліцэй – гэта храм..."

Ліцэй – гэта храм. Храм не толькі навукі і ведаў, а яшчэ і дружбы, узаемаразумення, дабра.

Дзесяць гадоў працы ліцэя прынеслі свае плады. Але што такое дзесяць год для натхнёнага, нястомнага народа – настаўнікаў і іх вучняў? Усё яшчэ толькі пачынаецца! І ў гэты час я жадаю толькі аднаго: каб хто-небудзь з ліцэістаў адкрыў рэчыва, якое дазволіла б чалавеку жыць вельмі доўга, і мы маглі б павіншаваць ліцэй са стогадовым юбілеем.

*Яўген Лебедзеў, 10 "ФМ2"*

***

Ужо тры гады прайшло з таго моманту, як мы сталі ліцэістамі.

Цэлыя тры гады! І адначасова – усяго толькі тры…

Вось і прайшоў час нашага апошняга звароту да шматлікіх прадметаў, з якімі мы ў будучыні наўрад ці сустрэнемся. Што ж – усё ў гэтым жыцці часовае, многа ў ім выпадковага і неабавязковага, многае забываецца. З цягам часу забываюцца формулы, азначэнні, нават імёны, прозвішчы… Застаецца толькі галоўнае, самае блізкае, дарагое, неад`емнае! Першы званок і апошні, першая настаўніца і класны кіраўнік, першая сустрэча з будучымі аднакласнікамі і развітальны баль…

Нашыя першыя крокі ў Краіну Ведаў звязаны са школай, і, навучыўшыся хадзіць, адсюль, менавіта са школы, мы выходзім на сваю ўласную сцежку, выбіраем свой шлях. Нашая ж альма-матэр – ліцэй.

Не раз у думках мы будзем звяртацца за маральнай падтрымкай да нашых настаўнікаў. Не раз будзем успамінаць жыццёвыя ўрокі, атрыманыя за гады нашага навучання. Хтосьці можа запярэчыць: "Не звернецеся, усё забудзеце!" Я ж проста адкажу: "Звернемся…"

Чаму? Ды таму, што наш ліцэй абараняе гуманістычнае стаўленне да людзей, справядлівасць і праўду, рупіцца пра духоўную чысціню, асуджае зло і фальш, абыякавасць і эгізм, вучыць шанаваць сапраўдныя каштоўнасці. А ці не гэта галоўнае!?

Што можам мы сказаць, пакідаючы ліцэй у час яго дзесяцігоддзя?

Для нас, выпускнікоў цяперашніх і для выпускнікоў будучых, галоўнае, каб не згас у нашай душы агеньчык ведаў, які запалілі настаўнікі і які за гэтыя гады стаў сапраўднай паходняю ў цёмным, складаным лабірынце зусім яшчэ невядомага жыцця!

А настаўнікам – паклонімся нізка, да зямлі. І скажам: "Дзякуй! Вялікі, шчыры…"

*Ірына Гернoвіч, 11 "Л"*

***

Цікавыя ўрокі, вясёлыя гульні, святкаванне Дня ліцэіста, паездкі, экскурсіі, алімпіяды – усяго не пералічыш. Канечне, узімку халаднавата бывае, але калі вакол цябе сябры ў цёплых куртках і, самае галоўнае, настаўнікі з гарачымі сэрцамі, ніколі не змерзнеш!

У ліцэй ідуць людзі, якія хочуць вучыцца. Гэта ўжо 50% поспеху, калі вучань ведае, кім ён хоча стаць у будучыні. Я вельмі ўдзячна ўсім нашым настаўнікам, таму што яны,кожны па - свойму, стараюцца зрабіць нас сапраўднымі людзьмі.

Зараз, дзякуючы нашым настаўнікам фізкультуры Вячаславу Васільевічу і Ігару Сяргеевічу, я магу дагнаць (а можа, нават і перагнаць любы аўтобус) і таму на ўрокі я спазняюся толькі ў экстрэмальных сітуацыях. Я хачу падзякаваць нашым настаўніцам рускай і беларускай моў Ларысе Фёдараўне і Тацяне Рыгораўне, адзначыць працу нашых настаўнікаў фізікі, матэматыкі, біялогіі, гісторыі, геаграфіі, хіміі: Аляксандра Цярэнцьевіча, Алены Іосіфаўны, Ганны Канстанцінаўны, Ганны Міхайлаўны, Наталлі Сцяпанаўны, Аляксандра Пятровіча. Вялікі дзякуй нашай класнай "маме", выкладчыцы англійскай мовы Францэсцы Леанідаўне!

*Марыяна Дзялендзік 10 "Л1"*

***

19 кастрычніка 1811 года – знамянальны дзень у гісторыі Расіі. Менавіта ў гэты дзень быў адкрыты Царскасельскі ліцэй. Славу гэтай навучальнай установе прынёс адзін з яго выпускнікоў, аб якім цяпер ведае ўвесь цывілізаваны свет – А.С.Пушкін.

Праз 180 гадоў, у 1991 годзе, быў заснаваны Барысаўскі політэхнічны ліцэй.

Розныя эпохі, розныя лёсы выпускнікоў, рознае і жыццё. Але колькі падобнага!

"Адукацыя ваша да гэтага часу была адным з важнейшых заняткаў вашых бацькоў…"

"Тут будуць вам дадзены веды, неабходныя для грамадзяніна…"

"З`яднаўшы гэтыя веды, вы зробіцеся здольнымі да ўсялякага віду дзяржаўнай службы…"

Гэтыя словы з уступнай прамовы А.П.Куніцына пры адкрыцці Царскасельскага ліцэя.

Асноўнай задачай ліцэя, у якім вучыўся Пушкін, была падрыхтоўка высокамаральных дзяржаўных дзеячоў, якія будуць служыць сваёй Айчыне верай ды праўдай і будуць яркім прыкладам для свайго народа. Дзесяткі выпускнікоў гэтай знакамітай установы апраўдалі давер сваіх настаўнікаў.

Гэтую ж задачу – задачу выхавання і навучэння маладога пакалення – ставіць перад сабой і наш Барысаўскі ліцэй.

Пройдуць годы – і ў нашым ліцэі збяруцца знакамітыя паэты, сусветна вядомыя пісьменнікі, лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, члены-карэспандэнты Акадэміі навук. Я веру ў светлую будучыню свайго ліцэя!

*Галіна Кавалёва, 10 "Л1"*

***

Увесь восьмы клас я пражыла з марай аб паступленні ў гэтую вучэбную ўстанову. Дні падрыхтоўкі да экзаменаў праплылі нібы некалькі гадзін. І вось вялікі дзень настаў. Узяўшы ручкі, алоўкі, два чыстыя сшыткі і невялічкую рэч, якая павінна была прынесці поспех – маленькі чырвоненькі памідорчык, я з нейкай неабгрунтаванай радасцю ў сэрцы "паляцела" на першы экзамен у маім жыцці. Першы экзамен! Вельмі сур`ёзны, але не страшны, як здавалася раней…

Амаль два месяцы я з`яўляюся вучаніцай лінгвістычнай групы 9 "Л". Вучні ў класе – родныя "чалавечкі", настаўнікі – зусім не "злыя цёці і дзядзі", а наадварот – сябры і памочнікі, узначальвае гэты цуд "свой чалавек", наш дырэктар.

Дзесяць гадоў…Многа гэта ці мала – вырашаць не мне. Але калі ліцэй "пражыў" гэты тэрмін, значыць, ён сапраўды патрэбны гораду, патрэбны людзям.

*Валерыя Мельнікава, 9 "Л"*

***

Тут, у ліцэі, пануе асаблівы настрой, асаблівая атмасфера ўзаемаадносін паміж настаўнікамі і вучнямі. І кожны навучальны год прыносіць нешта новае, добрае, светлае.

*Вольга Лукашэвіч, 10 "ФМ2"*

***

Ліцэй…Ад гэтага слова трохі замірала сэрца, а ў марах было стаць ліцэісткай. І мара збылася. Так здарылася, што я прыйшла ў ліцэй у яго дзесяцігадовы юбілей.

Адразу мяне ўразіла чысціня, строгасць, прастата і своеасаблівая прыгажосць. Кругом ліцэя стаяць высокія дрэвы, якія, мабыць, пасадзілі першыя ліцэісты.


CERTIFICATE

Awarded together with a grant for 4000 US dollars to

Polytechnical Lycee of Borisov

For achievements in teaching mathematics, physics, chemistry, biology and active participation in ISSEP competitions

Presented by

INTERNATIONAL SOROS SCIENCE EDUCATION PROGRAM

Tuesday, October 15, 1996

Сертыфікат, які быў выдадзены Барысаўскаму політэхнічнаму ліцэю ў 1996 годзе

У памяшканнях ліцэя ўсюды стаяць прыгожыя хатнія кветкі, якія як бы гавораць нам: "Не хвалюйцеся, вы тут не чужыя." Рабочы, прыемны гул напаўняе калідоры.

Вось і першы званок. Усе дзелавіта разышліся па класах. А па калідоры зазвінелі абцасы нашых настаўнікаў. Яны спяшаюцца на сваю высакародную справу – вучыць дзяцей.

Пройдзе час, і гэта ім мы будзем казаць словы ўдзячнасці за тое, што яны, не шкадуючы сіл, далі нам веды, пуцёўку ў дарослае жыццё. І, разам з намі, яны таксама ліцэісты.

Хай жа гэты першы дзень не забудзецца ніколі, а застанецца ў памяці светлым, надзейным і добрым днём!

*Вольга Мацура, 9 ФМ1*

***

Мне хацелася б трохі паразважаць аб ролі ліцэя ў маім жыцці.

Сказаць, што ліцэй – месца, дзе я вучуся фізіцы, мовам, матэматыцы і іншым навукам, - гэта не сказаць амаль нічога. Нашы настаўнікі не толькі імкнуцца перадаць нам свае веды, але перш за ўсё жадаюць выхаваць нас, зрабіць сапраўднымі людзьмі, Людзьмі з вялікай літары, годнымі, сумленнымі, мудрымі, патрыётамі сваёй Радзімы.

Ліцэй – гэта месца, дзе я па-сапраўднаму жыву, гэта таленавітыя настаўнікі, блізкія сябры, суседка па парце з вялікім пачуццём гумару. Я ўпэўнена, што гэтыя тры гады ў ліцэі застануцца ў маёй памяці назаўсёды.

*Ірына Урбановіч, 11"Л"*

***

Дні, тыдні, гады пакінулі ў памяці толькі добрыя ўспаміны. Шмат цяжкасцей мы змаглі перажыць з табой, ліцэй, і таму з гонарам завемся – ліцэісты!

Пройдзе нямала гадоў, але ты, я ўпэўнена, застанешся і будзеш вучыць нашых дзяцей…

*Святлана Лукашэвіч, 10 "Л2"*


У бібліятэцы ліцэя





*Карціна, якая выканана з раслін і іншых натуральных прыродных элементаў (зверху)*

*Дагляд за братамі нашымі меншымі (злева і знізу)*



# Дзеля здароўя маці-прыроды

*З 1945 года дзейнічае ў горадзе натуралістычны цэнтр, які два з паловай гады назад пачаў называцца эколага-натуралістычным. Новая назва не была вынікам запланаванай зверху рэарганізацыі, а з"явілася, дзякуючы натхнёнай і шматграннай дзейнасці ў галіне экалогіі, якая ажыццяўляецца ў цэнтры.*

З 756 навучэнцаў цэнтра роўна палова наведвае гурткі экалагічнай накіраванасці: "Юны эколаг", "Ахова прыроды", "Прырода і чалавек".

Дзеці займаюцца таксама ў навукова - экалагічных секцыях. Формы прыродаахоўнай дзейнасці вельмі разнастайныя: назіранні і даследаванні, патруляванні і маніторынгі, вандроўкі і экалагічныя сцежкі, выпуск улётак і выступленні ў СМІ. Акрамя таго хлопцы і дзяўчаты пішуць на тэмы экалогіі вершы і казкі, паданні і апавяданні.

На рахунку юных эколагаў стварэнне сур"ёзных навуковых прац, з якімі яны выступалі на рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. На 6-ай рэспубліканскай навукова-даследчай канферэнцыі, дзе разглядалася 156 прац у галіне экалогіі, працы юных барысаўскіх даследчыкаў былі настолькі якаснымі і цікавымі, што яны падзялілі паміж сабой першае месца. Тэма адной з прац, якая была выканана Тацянай Нячаевай і Юліяй Алексяёнак пад кіраўніцтвам А.Журавель, - экалагічны маніторынг ракі Схі ў межах Барысава. Былі вызначаны віноўнікі забруджвання ракі ў горадзе, праведзены навуковы аналіз характару забруджвання. Другая праца, выканаая Антонам Аляксеевым пад кіраўніцтвам Е.Царовай, паказала, як мяняецца відавы састаў раслін, у прыватнасці мхоў і лішайнікаў, у хвойніках вакол Барысава ў залежнасці ад блізкасці ці аддаленасці ад прамысловых раёнаў.

Не менш цікавыя і карысныя іншыя напрамкі дзейнасці цэнтра.Дарэчы, узрост дзяцей, якія займаюцца ў цэнтры, самы розны: ад дашкалят да вучняў 9-11 класаў. Ёсць 3 групы, якія займаюцца пры цэнтры карэкцыйна-рэабілітацыйнага навучэння і развіцця.

Дзеці вырошчваюць гародніну, кветкі, разводзяць рыбак і даглядаюць за канарэйкамі, папугайчыкамі, марскімі свінкамі, чарапахай і іншымі жыхарамі цэнтра. Узімку падкормліваюць дзікіх жывёл і птушак.

У цэнтры ёсць гурткі, дзе паглыблена вывучаецца біялогія і хімія, ёсць і свой тэатр фларыстычнай моды "Натхненне". Саламяныя капелюшы, вяночкі, іншыя упрыгожанні дзеці робяць на занятках гурткоў дэкаратыўна-прыкладной накіраванасці. Назвы гурткоў кажуць самі за сябе: "Залатая саломка", "Прырода і чалавек", "Флорадызайн". Вырабамі і карцінамі з саломкі, розных раслін, іншага прыроднага матэрыялу ўпрыгожаны памяшканні цэнтра. Тут жа стаяць з вялікім густам выкананыя з засушаных раслін букеты. Увесь раслінны матэрыял для працы дзеці вырошчваюць самі. Знайшлося ў цэнтры месца і цэлай калекцыі разнастайных кактусаў і сакулентаў.

Калі заходзіш у гэты дамок на вуліцы Гогаля, здаецца, што трапіў з рэчаіснасці ў казку. Спяваюць птушкі, усюды расліны, арыгінальныя карціны цешаць вока, у пакоях цёпла і ўтульна. Ды і вонкава дом гэты падобны на казачны.Дзеці паглыбляюцца ў таямніцы маці-прыроды ў хатняй, душэўнай атмасферы, якая створана намаганнямі педагагічнага калектыва цэнтра.

Плёну, навуковых поспехаў, цікавых вандровак, новых творчых работ, добрых ураджаяў!

***К.Сушынская***



Будынак экалагічнага цэнтра

# Жыццё ў тэлевізары

Найда была худая, лядашчая сабака. А потым прыблілася да крамы... Вядома ж, каля крамы народу рознага таўчэцца, гандаль ідзе на вуліцы. Людзі і жаласлівыя трапляюцца. Тое-сёе перападала. І пачала Найда ўваходзіць у цела. Ну а потым і дзетак завяла.

А восень...Дажджы.. Мужчыны з суседняга дома прыцягнулі корпус ад старога лямпавага тэлевізара, дзяўчаты завесілі "будку" цыратамі, паклалі анучаў. З'явіўся каля будкі і посуд. Ежу кожны дзень выносяць.

Сем дзетак нарадзіла Найда. Але двое загінулі. Было так. Хоць і з выгодамі жытло, але не хацелася Найдзе гадаваць шчанят на людзях. Знайшла побач з крамай нейкую шчыліну ў зямлі, што пасля будаўнікоў засталася, і пачала туды дзяцей зносіць. Аднаго прынесла, другога. А потым сцяміла, што сама туды ўлезці не можа. Спынілася. Але дзетак выцягнуць з глыбіні ўжо не змагла.



Пачала астатніх пяцёх гадаваць у будцы з тэлевізара. Дзеткі прыгажэнькія, кругленькія. Аднаго ўжо забралі. Можа, і на астатніх жадаючыя знойдуцца.

Завітайце да крамы на вуліцы Галіцкага... Толькі асцярожна. Каля крамы Найда - самая мірная сабака. Глядзіць у вочы, лашчыцца. Ля будкі ж гырчыць і блізка не пускае. Маці...

***Е.Граковіч***

# Вырабы з палімераў немінуча прынясуць праблему

*Хто з нас не захапляўся так званым еўрарамонтам? Прыгожыя дзверы, вокны, Думалася, што гэта той матэрыял, які заменіць нашу традыцыйную драўніну. Тым больш, што ён больш гігіенічны і танны.*

Але не спяшайцеся рабіць вывады. Масавае ўжыванне вырабаў з палімераў нясе з сабою вялікую пагрозу. Яшчэ і сёння мы не навучыліся ўтылізаваць нават звычайныя пластыкавыя бутэлькі, і яны засмецілі нашы лясы і палі,

- Палімеры - гэта страшная рэч, бо яны выдзяляюць фенолы ды іншыя таксіны, небяспечныя для здароўя чалавека. Гэта эмацыянальнае выказванне належыць не шараговаму грамадзяніну, а дырэктару канструктарскага бюро Інстытута механікі палімерных сістэм Аляксандру Чарнарубашкіну. А вось і працяг: -Яшчэ страшней, калі поліэфірныя матэрыялы трапляюць на звалку, дзе нярэдка адбываецца іх узгаранне, у выніку чаго ўтвараецца дыяксін. Уплыў яго на чалавека у 100 - 1000 разоў страшней атамнага выбуху, бо прыводзіць да змен нават у ДНК. Праз 3-4 пакаленні гэта скажацца на нашчадках.

Тэрмін эксплуатацыі вырабаў з ПВХ - 10 -15 год. Давайце будзем памятаць пра гэта.

***М.Пучыла***

# Малым рэкам – наш вялікі клопат!

З 1999 года вучні навукова-даследчай секцыі "Эколаг" эколага - натуралістычнага цэнтра дзяцей і моладзі бяруць удзел у рэспубліканскім адукацыйным праекце "Малым рэкам – вялікі клопат". З дапамогай кіраўніка навучэнцы склалі экалагічны пашпарт ракі Схі, які змяшчае ў сабе вынікі гідралагічных і гідрахімічных назіранняў за ракой Схой на працягу 1999- 2000 гадоў.

У час даследавання высветлілася, што раку Сху можна прылічыць да вадатокаў з сярэдняй ступенню забруджанасці. Асноўныя рэчывы, якія забруджваюць Сху, – нафтапрадукты і аманійны азот. Галоўныя віноўнікі пагаршэння экалагічнага стану ракі – прадпрыемствы паўночнага прамысловага вузла г.Барысава, бо іх ліўнёвая каналізацыя спускаецца ў Сху. Іншым разам да ліўнёвай вады прымешваюцца і сцёкі, а гэта ўжо грубае парушэнне.

Праводзячы рэгулярныя рэйды па Схе, вучні не аднойчы назіралі аварыйныя выкіды і паведамлялі пра тое ў інспекцыю прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Прыватны сектар таксама спрыяе пагаршэнню стану ракі, асабліва вясной і летам, калі рака выкарыстоўваецца для гаспадарчых і бытавых патрэб.



*Смецце на беразе Схі ў межах Барысава*

Яшчэ адна праблема ракі – неарганізаваныя звалкі і турысты, якія адпачываюць у вусці ракі. Пасля іх застаюцца горы смецця і вогнішчы. На жаль, праект стварэння зоны адпачынку на гэтай тэрыторыі замарожаны.

Навучэнцы і выкладчыкі эколага - натуралістычнага цэнтра звяртаюцца да барысаўцаў з просьбай не выкідаць смецце на беразе ракі, не зліваць у раку гаспадарчыя і фекальныя сцёкі, па магчымасці азеляніць берагі Схі і тым самым прадухіліць эрозію і вымыванне глебы. Калі жыхары горада заўважаць, што ў раку скідаюцца сцёкі, просім паведаміць нам у цэнтр (вуліца Гогаля, 11, тэл. 2-25-30).

Шаноўныя барысаўцы! Давайце будзем разам берагчы і прымнажаць багацце роднага краю. А ўсіх хлопцаў і дзяўчат, якія неабыякавы да праблем экалогіі роднага горада, мы запрашаем да нас, у эколага-натуралістычны цэнтр.

***А.Журавель,***
***кіраўніца секцыі "Эколаг"***

# Філін

*Хто не чуў пра філіна? Славуты начны разбойнік, казачны герой. Гэта ён гучна вухкае ў лясным гушчары з надыходам цемры.*

Чалавек, які ўпершыню пачуе яго, абмірае са страху. Адзін геолаг так распавядаў пра сустрэчу з філінамі: "Мой маршрут зацягнуўся, і я вяртаўся на базу напрасткі цераз лес. Была другая гадзіна ночы. Аддалены ядовы лес выглядаў прывідным і незвычайна густым. Я вырашыў прабірацца на дарогу праз рэдкі асіннік. Калі выйшаў нарэшце на цвёрды шлях, то з палёгкай уздыхнуў і запаліў цыгарэту. І тут раптам недзе збоку пракаціўся жудасны рогат з прыглушаным вухканнем. Не паспеў я прайсці і некалькі крокаў, як нехта праімчаўся нада мною, збіўшы шапку на патыліцу. Тут жа новы палёт над галавой і яшчэ адзін. Абрысы загадкавых летуноў раставаліся ў начной цемры і толькі круглыя, велізарныя вочы ярка фасфарысцыравалі. Я рыўком нацягнуў брыль шапкі на твар, паскорыў крок і пачаў адбівацца як мог ад нападаючых на мяне "лесуноў". Дзіўныя "лесуны" праследавалі мяне метраў сто, пакуль у баку ад дарогі не пачуўся радасны піск маладых філінятаў, якія сустракалі сваіх бацькоў. Філіны -"лесуны" пакінулі мяне і паляцелі да сваіх гнёздаў."

Звычайны філін (а ёсць таксама філін рыбны ды яшчэ 10 відаў) жыве на абшарах Еўразіі і Паўночнай Афрыкі па глухіх месцах у лясах, стэпах, пустынях, гарах. Паўсюль ён сустракаецца рэдка і пазбягае блізкасці чалавека.



Гэта адна з самых буйных птушак сямейства соў. Даўжыня ягонага цела дасягае 72 см. Па баках акруглай галавы тырчаць пучкі пер"я, свасаблівыя "вушы". Лапы таксама апранутыя ў пальчаткі з пер"я. Афарбоўка птушкі цёмна- ці светларудая, пярэстая. Вочы чырвонааранжавыя, вялізныя, круглыя. Выдатны слых, нячутны палёт, зоркія вочы, учэпістыя кіпцюры, моцная кручкаватая дзюба - усё гэта дапамагае філіну ўдала паляваць пад покрывам ночы за зайцамі, мышамі, птушкамі, а часам і за вожыкамі. Гняздо ён будуе на зямлі, зрэдку на дрэвах у старых гнёздах іншых буйных птушак, а ў гарах – на скалах.

Кладзе ад 2 да 6 белых яечак, звычайна два - тры. Птушаняты нараджаюцца сляпымі, пакрытымі белым пухам. Наседжвае яечкі самка, а гадуюць дзетак разам. Філіны – клапатлівыя, старанныя бацькі.

Сустрэць у нашых лясах філіна - вялікая ўдача. Толькі адзінае гняздо было знойдзена ў 1990 годзе ў дуброве ў пойме Бярэзіны. Лічыцца, што яшчэ 2 ці 3 сям'і жывуць у паўднёвай частцы Бярэзінскага запаведніка ў ельніках. І ўсё... Філін знікае з нашых лясоў, і калі не рабіць адмысловых намаганняў па яго ўратаванню, ён можа сапраўды застацца толькі казачным героем.

***Е.Граковіч***

# Значэнне правільнага рэжыму дня для школьніка

*Пад правільным рэжымам дня трэба разумець рацыянальнае чарагаванне розных відаў дзейнасці і адпачынку школьнікаў, якое мае аздараўленчае значэнне.*

Правільна арганізаваны рэжым дня спрыяе захаванню высокай працаздольнаці арганізма працяглы час, стварае роўны настрой, выклікае цікавасць да вучобы, гульняў, творчай дзейнасці, спрыяе нармальнаму фізічнаму развіццю і ўмацаванню здароўя. Даследаваннямі гігіеністаў і фізіёлагаў ўстаноўлена, што нерацыянальна арганізаваны рэжым дня, асабліва непаўнацэнны сон, неспрыяльна ўплываюць на працаздольнасць школьнікаў.

Для ўмацавання здароўя, паляпшэння паспяховасці вучняў важна стварыць усе ўмовы, якія забяспечваюць захаванне правільнага рэжыму дня. Пры складанні рэжыму трэба ўлічваць наступныя ўмовы:

1) пэўную працягласць вучэбных заняткаў і заняткаў па ўласнаму выбару;

2) дастатковы адпачынак на свежым паветры не меней 2-2,5 гадзін у дзень;

3) рэгулярнае харчаванне (3-4 разы ў дзень);

4) паўнацэнны начны сон (не меней 9 гадзін).

Рэгулярнасць асобных рэжымных момантаў і іх чарагаванне забяпечваюць выпрацоўку пэўнага рэжыму дзейнасці арганізма. Напрыклад, прыём ежы ў пэўны час запяспечвае добры апетыт і нармальнае страваванне, звычка ўкладвацца спаць у адзін і той жа час садзейнічае хуткаму засынанню і, такім чынам, больш паўнацэннаму адпачынку, ажыццяўленне вучэбнай і працоўнай дзейнасці ў пастаянны час прыводзіць да больш хуткага ўключэння ў работу арганізма і лепшага засваення ведаў, навыкаў і ўменняў.

Асаблівае месца ў жыцці школьніка займае навучанне ў школе. Вучэбная работа з"яўляецца для дзяцей і падлеткаў асабліва цяжкай, так як патрабуе напружанай дзейнасці кары галаўнога мозга.

З прычыны ўзроставых асаблівасцей вышэйшай нервовай дзейнасці для навучэнцаў малодшых, сярэдніх і старэйшых класаў устанаўліваецца розны рэжым школьных заняткаў – розная працягласць навучальнага дня і ўрока.

У пачатку навучальнага года працаздольнасць школьнікаў аказваецца ніжэйшай, чым у канцы яго. Гэта тлумачыцца тым, што ва ўсякую работу арганізм уключаецца паступова і толькі праз пэўны час працаздольнасць робіцца максімальнай.

Парушэнне рэжыму дня і адпаведна выпрацаванага ў сувязі з гэтым рытму дзейнасці арганізма можа адмоўна адбіцца на вучэбных занятках і здароўі вучняў.

Стомленасць, якая ўзнікае і развіваецца ў вучняў у працэсе заняткаў, асабліва праяўляецца на апошніх уроках. У вучняў малодшых класаў стомленасць бывае ў значнай ступені выражана ўжо да трэцяга-чацвёртага ўрока, а ў вучняў сярэдніх і старэйшых класаў – да пятага-шостага ўрока. У сувязі з гэтым вучэбны дзень вучняў трэба строга рэгламентаваць з улікам тыднёвай вучэбнай нагрузкі.

Даследаванні паказалі, што найбольш высокая працаздольнасць адзначаецца ў вучняў малодшых класаў на першых-другіх уроках, у вучняў сярэдніх і старэйшых класаў – на другіх-трэціх. Менавіта гэтыя ўрокі варта адводзіць на правядзенне кантрольных работ і заняткаў тымі прадметамі, якія вымагаюць ад вучняў напружанай увагі .

Кожны ўрок змяняецца перапынкам-адпачынкам, вельмі неабходным вучням для аднаўлення іх працаздольнасці.

Вучні стамляюцца на ўроках не толькі ад разумовай дзейнасці, але ў значнай ступені ад працяглага сядзення за партай ці сталом. Зыходзячы з гэтага, у час перапынкаў важна даць дзецям магчымасць, асабліва ў пачатковай школе, пабегаць і пагуляць.

Перапынкі, у час якіх вучні паўтараюць вучэбны матэрыял, не забяспечваюць арганізму адпачынку, а наадварот, садзейнічаюць нарастанню стомленасці.

Такім чынам, рацыянальна арганізаваны рэжым дня, у тым ліку і пасля вучэбных заняткаў, разам з другімі відамі дзейнасці садзейнічае захаванню здароўя школьнікаў, павышае іх працаздольнасць.

***Т.Задарожная,***
*загадчык аддзялення гігіены дзяцей і падлеткаў Барысаўскага ГЦГЭ*


Вялікая Ухалода

# Азірніцеся, і Вы ўбачыце...

*Кожны чалавек звыкаецца са сваім штодзённым наваколлем. Не дзіва таму, што шмат хто лічыць, што самыя адметныя і вартыя ўвагі мясціны могуць быць дзе заўгодна, толькі не ў яго краі. Але час ад часу з'яўляюцца людзі, якія не згодныя з гэтым і робяць усё, каб праславіць свой край, давесці ўсім пра яго хараство і багатыя традыцыі.*

*Адным з такіх людзей быў Іван Клімковіч, які нарадзіўся ў 1894 годзе ў вёсцы Вялікая Ухалода і пакінуў аб ёй, яе гісторыі, людзях і іх быце свае ўласныя даследаванні. Яны захоўваюцца ў фондах Барысаўскага краязнаўчага музея. Гэта праца была напісана ў 60-х гадах XX стагоддзя і ўтрымлівае як уласныя ўспаміны аўтара, так і звесткі, якія сабраны ім ад аднавяскоўцаў і ў розных друкаваных крыніцах. У бліжэйшых нумарах наша газета мае намер пазнаёміць сваіх чытачоў з яе асобнымі фрагментамі. Безумоўна, распавядзем мы і пра аўтара тых каштоўных успамінаў.*

*Сёння ж мы пачынаем знаёмства з працай І.Клімковіча з апісання прыроды і наваколля Ухалоды, якая натхніла аўтара на напісанне такой грунтоўнай працы.*


*Стары брук на вуліцы ў Вялікай Ухалодзе*

Ухалода - мая радзіма. Тут я нарадзіўся, узгадаваўся. Яе наваколлі я прайшоў уздоўж і ўпоперак. У большай частцы басаногім, нямала ў лапцях і меншай меры ў ботах. Тут ёсць свае горы, ёсць свая Бабіна гара, вялікія палі, багатыя лугі, бязмежныя лясы, судаходная рака. Наваколлі Ухалоды разнастайныя і па - свойму прыгожыя, асабліва летам. З самага высокага месца адкрываецца выдатная панарама на заліўныя лугі паабапал Бярэзіны. Далей да гарызонту – лясы і палі Юшкевічаў і сама вёска, фабрычныя трубы Барысава і Новабарысава.

За заходняй часткай Ухалоды вузкая паласа саўгасных палёў, якія мяжуюць з лесам. Далей лес трошкі саступае, але потым ад Мазурава ярда да Сіўца паўстае сцяной. Гэты лес паварочвае на ўсход і цягнецца да Падбярэззя. На ўсход адсюль далёка бачны палі, а дзесьці за гарызонтам – Мётча – наш сельсавет. Праз высечку лесу каля Мачулішч бачна Малая Ухалода, за ёй пясчаная гара, а правей – лес. За лесам Завалы.

Частка Ухалоды ўжо ўклінілася ў лясістыя горы, якія хутка стануць "лысістымі", і тады адчыніцца велічная панарама поймы Бярэзіны з відам на Глівіна.

Лясы ў наваколлях Ухалоды месцамі хвойныя, месцамі лістаўныя або змешаныя. Лес для жыхароў Ухалоды з даўніх часоў - і будаўнічы матэрыял, і паліва. Грыбы і лясныя ягады – добрая падтрымка ў любой гаспадарцы. Прыродныя багацці наваколляў Ухалоды, свет тутэйшых птушак і звяроў – тэма для асобнай гутаркі.

У навігацыю па Бярэзіне на Ухалодзе адчыняецца часова прыстань для цеплаходаў Новабарысаў – Беразіно. У засушлівае лета, калі спад вады на рацэ вялікі – рэйсы цеплаходаў спыняюцца. Калі падплываць да Ухалоды на лодцы або на параходзе па Бярэзіне, вёска выглядае, як вялікая шэрая пляма, але гэта толькі палова вёскі, яе ніжэйшая частка. Астатняя паўночная частка Ухалоды застаецца за гарызонтам. У гады майго юнацтва Вялікая Ухалода была значна меней, больш кампактнай, але больш утульнай. А зараз яна распылілася, раскінулася ва ўсе бакі і вось-вось злучыцца з Малой Ухалодай.

Усё ва Ухалодзе мне роднае, незабыўнае... Нельга забыць і падзеі дзён, якія ўжо даўно мінулі, і людзей, якіх я добра памятаю – сваякоў, суседзяў, аднавяскоўцаў наогул. Шмат з вёсак я пабачыў у сваім жыцці. Але Ухалода – лепшая, найвыдатная з іх ва ўсіх адносінах!

***І.Клімковіч***

# Геалагічная гісторыя Барысаўшчыны

*Мала хто з барысаўцаў уяўляе, калі частуецца "Барысаўскай" альбо "Бярэзінскай" мінеральнай вадой, колькі гадоў рыхтаваліся гэтыя папулярныя ў народзе напоі. Напрыклад, мінеральная вада "Барысаўская" здабываецца з верхнепратэразойскіх парод, гэта значыць, што ўзрост гэтай вадзічкі каля 600 мільёнаў гадоў. Столькі гадоў настойвала нам смачны і карысны напой прырода.*

Барысаўская зямля, як і любы іншы куток свету, мае складаную геалагічную гісторыю, якая пісалася мільёнамі гадоў. Прабяжымся хаця б з большага, не паглыбляючыся ў адмысловыя дэталі і тэрміны, па гэтаму няпростаму шляху.

Усю гісторыю развіцця планеты геолагі падзяляюць на пяць эраў, у апошняй з якіх, кайназойскай, мы зараз і жывем. Час, калі завяршалася адна эра і пачыналася наступная, вызначаны на падставе зменаў у стане зямной кары і ў арганічным свеце Зямлі. Напрыклад, з'яўленне млекакормячых жывёл і пакрытанасенных раслін абумовіла пераход ад мезазойскай эры да кайназою.

А ўсё пачалося чатыры з паловай мільярда год назад, калі стварылася наша Зямля. Першыя мільярды гадоў ёсць самыя загадкавыя і спрэчныя, бо з тых часінаў не засталося амаль ніякіх слядоў, вучоным ёсць прастора для гіпотэз, якія ўсё ж такі, без бясспрэчных доказаў, застаюцца гіпотэзамі. Яшчэ ў 18-ым стагоддзі нямецкі філосаф І.Кант і французскі матэматык П.Лаплас прапанавалі першую гіпотэзу стварэння Зямлі, згодна якой яна ўтварылася з распаленай газава-пылавай туманнасці, якая паступова астывала і пакрывалася паверхневай скарынкай. Больш сучасны погляд на стварэнне Зямлі распрацаваны на падставе тэорыі выхадца з Магілёва О.Шміта, які лічыў, што зыходным матэрыялам для стварэння Зямлі быў халодны газава-пылавы згустак, які потым разагрэўся за кошт сіл гравітацыі, радыёактыўнага распаду і хімічных рэакцый.

Але падыдзем крыху "бліжэй" да сучаснасці і пагдядзім, што адбывалася на тэрыторыі Беларусі ў перыяд ад трох з паловай да 1,7 мільярдаў гадоў. У геалогіі гэты перыяд часу носіць назву архею і ранняга пратэразою.

У той час на месцы Беларусі існаваў старажытны акіян, дно якога было няроўным. У прагінах намнажаліся магутныя тоўшчы адкладаў, якія спрыялі працэсу гораўтварэння. Праз тоўшчы адкладаў прарываліся вулканы і вылівалі на дно акіяна гарачую магму, якая астывала і ператваралася ў вулканічныя пароды. Паступова на захадзе Беларусі ўзняліся горы вышынёй у некалькі кіламетраў. Усходняя частка Беларусі таксама ўздымалася і выйшла з-пад узроўню акіяна. Сфарміраваныя ў гэты час крышталічныя пароды склалі цвёрдую аснову, якую геолагі называюць крышталічным падмуркам.

На тэрыторыі Беларусі пароды падмурка залягаюць на рознай глыбіні: ад 6 км да выхаду на паверхню (у раёне в.Глушкавічы Лельчыцкага раёна). У раёне г.п. Мікашэвічы і г.Жыткавічы глыбіня залягання цвёрдых парод – 20-30 м. Старажытныя граніты, гнейсы, амфібаліты, габра маюць вельмі прыгожы выгляд і выкарыстоўваюцца для абліцоўкі будынкаў, станцый метрапалітэна, набярэжных. У старажытным падмурку знаходзяць і жалезныя руды (радовішчы ў Карэліцкім і Стаўбцоўскім раёнах).

На тэрыторыі Барысаўскага раёна глыбіня залягання гэтых парод - 400 - 500м. Менавіта на іх ляглі адклады позняга пратэразою, калі пры паніжэнні зямной паверхні на паўночным усходзе Беларусі ўтварыўся буйны Аршанскі марскі басейн, і тэрыторыя Барысаўшчыны зноў апынулася пад вадой.

І зноў пачынаецца адкладанне пяскоў і глін, якія робяцца з цягам часу больш шчыльнымі і цвёрдымі, пераўтвараючыся ў горныя пароды: пясчанікі і алеўраліты. Між гэтымі шчыльнымі пародамі з абмежаваным водаабменам і накаплівалася вада з павышанай ступенню мінералізацыі, якая адпаведна разбаўленая і газіраваная з"яўляецца да нас у выглядзе ўлюбёных мінеральных напояў.



*Прыклады страматалітавых пабудоў*

Характэрная асаблівасць парод, сфарміраваных у ранні перыяд развіцця Зямлі, – вельмі рэдкія арганічныя рэшткі, таму архейскую і пратэразойскую эру называюць яшчэ крыптазоем, гэта значыць, "эрай скрытага жыцця". Прычым архейскія пароды нясуць толькі сляды прысутнасці бактэрый, а ў пратэразоі, асабліва верхнім, сляды жыцця сустракаюцца значна часцей, але гэта толькі рэшткі водарасцей, беспазваночных, выкапнёвых грыбоў. Адклады, у якіх знаходзяцца рэшткі шкілетаў пазваночных жывёл, адносяць да больш позняй эры –палеазою, пра якую мы пагаворым у наступным нумары.

***(Працяг будзе)***
***Т.Шміт***





Ускладанне вянкоў да помніка вайскоўцам расійскай арміі, якія загінулі падчас баёў на Брылёўскім полі(зверху); Выступае прэзідэнт Цэнтра Напалеонаўскіх даследванняў сп. Ф.Бакур (справа)

Слова трымае пасол Французскай Рэспублікі ў Беларусі сп. Б Фас`е (справа)








Вайскоўцы - сябры гістарычнага клуба "Менскі пяхотны полк" на маршы (зверху і справа); Сябра гістарычнага клуба падчас афіцыйнай цэрымоніі (злева); Бярэзіна каля Брылёўскага поля (знізу)





# Фэст на

*Гісторыя Бярэзінскай бітвы, з часу якой прайшло ўжо 189 гадоў, працягвае хваляваць людзей. Пераправа на Бярэзіне, у час якой фактычна перастала існаваць войска Напалеона, успамінаецца як гераічная старонка ў барацьбе рускага войска супраць французскага. Аднак усё больш ясным становіцца разуменне, што гэта агульная трагедыя для ўсіх яе ўдзельнікаў. У час Бярэзінскай пераправы загінула столькі людзей розных нацыянальнасцяў, як вайскоўцаў, так і цывільных, што гэта месца на Барысаўшчыне лічыцца адным з буйнейшых пахаванняў у Еўропе.*

Вялікія страты ў час Бярэзінскай пераправы, ды і, ўвогуле, у вайне 1812 года, панеслі беларусы, якія ваявалі як на расійскім, так і на французскім баках. Моцна пацярпелі жыхары зямель, дзе вяліся баталіі. Насельніцтва Барысаўшчыны ў выніку ваенных падзей зменшылася напалову.

25 лістапада на Брылёўскім полі ў памяць трагічных падзей на рацэ Бярэзіне ў 1812 г.прайшоў ваенна-гістарычны фестываль "Пераправа-2001". Такі фестываль праходзіць ужо трэці раз і кожны год робіцца ўсё больш шматлюдным. У гэтым годзе на Брылёўскім полі сабралося каля 300 чалавек.

Арганізацыяй фестывалю займаўся інстытут перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі МНС Рэспублікі Беларусь разам з ваенна-гістарычным клубам "Менскі пяхотны полк" пры дапамозе Барысаўскага райвыканкама. Начальнік інстытута сп.Г.Новік, яго намеснік сп.А.Дуньковіч і калектыў інстытута вядуць вялікую працу па захаванню гістарычнай памяці пра падзеі 1812 года. Зараз яны разам з Цэнтрам Напалеонаўскіх даследванняў распрацоўваюць праект помніка, які будзе установлены ля Крывавага ручая ў Студзёнцы праз год, калі будзе адзначацца 190-годдзе пераправы. У фінансаванні праекта ўдзельнічае Швейцарыя, якая згубіла на Бярэзінскай пераправе целы корпус сваіх вайскоўцаў. На Брылёўскім полі плануецца закладка дэндрарыя.

Інстытут прыняў пад свой дах удзельнікаў фестывалю: ваенна-гістарычны клуб "Менскі пяхотны полк", Слонімскі ваенна-гістарычны клуб "Ліра", калектыў ваенна-гістарычнага гуртка падшыпнікавага завода. Яны займаюцца рэканструкцыяй эпохі 1812 года і прадставілі гледачам фестывалю вельмі маляўнічае і пазнавальнае відовішча - эпізод змагання за пераправу на р.Бярэзіна. Клуб "Менскі пехотны полк існуе ўжо пяць гадоў і аб`ядноўвае людзей, якія цікавяцца эпохай вайны 1812 года. Яны шыюць мундзіры і касцюмы гэтай эпохі, вывучаюць ваенную справу, ладзяць зброю і нават вучацца танцам той эпохі. Сябры клуба бяруць удзел у гістарычных даследваннях. Сп.І.Груца, гісторык, член Цэнтра Напалеонаўскіх даследаванняў два гады арганізуе валанцёрскі лагер на месцы пераправы цераз Бярэзіну. Студэн-

ТУМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ







*Перад боем - чарка і бласлаўленне (зверху)*

*Фрагменты рэканструкцыі бою на Брылёўскім полі менскім гістарычным клубам "Менскі пяхотны полк":*

*наступаюць рускія войскі (злева);*

*рукапашны бой (справа);*

*Рускі атрад у акружэнні французаў (знізу)*



*Пры рэканструкцыі паказвалася ўсё, у тым ліку імітаваліся параненыя і забітыя (знізу)*



# Брылёўскім полі

ты і выкладчыкі вядут збор гістарычнага матэрыялу, вядуць раскопкі. Слонімскі клуб зусім малады, але мае свой аркестр, які і суправаджаў падзеі на фестывалі.

На фестываль былі запрошаны прадстаўнікі пасольства Францыі, прэзідэнт Цэнтра Напалеонаўскіх даследванняў сп. Ф.Бакур, дырэктар Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі сп.П.Хацько, прадстаўнікі міністэрства культуры, міністэрства замежных спраў і міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

Фестываль пачаўся з урачыстага пастраення палкоў, якія пад гукі аркестра прайшлі да помніка загінуўшым у баях 1812 года воінам расійскай арміі. Святар Свята-Троіцкай царквы а. Міхаіл адслужыў малебен і звярнуўся з прамовай да прысутных.

Потым пачаўся мітынг. Намеснік начальніка інстытута сп.А.Дунькович распавёў пра намечаныя мерапрыемствы па ўвекавечанні памяці ўсіх загінуўшых на пераправе і пажадаў, каб на Брылёўскім полі больш ніколі не лілася кроў і каб гэтае поле было полем братэрства ўсіх народаў. Сп.І Груца звярнуўся да ўдзельнікаў фестывалю, як да аднадумцаў і адзначыў, што мы павінны зрабіць усё магчымае, каб памяць пра загінуўшых тут людзей была ўшанавана гэтак жа , як шануюць памяць усіх склаўшых галовы ў час войнаў ва ўсёй Еўропе. На мітынгу выступілі дырэктар Нацыянальнага музея сп. П.Хацько і арганізатар клуба "Менскі пяхотны полк" сп.В.Паўлаў.

Пасля гэтага слова ўзяў пасол Францыі ў Беларусі сп. Б. Фас'е. "189 год таму назад нашы продкі змагаліся тут, як ворагі, - сказаў сп.Б.Фас'е, - а праз 150 год мы змагаліся ўжо, як саюзнікі. Я рад, што французскія лётчыкі і партызаны змагаліся побач з рускімі і беларусамі і што ў Беларусі шануюць памяць аб загіўшых тут французах. Хай Беларусь заўжды будзе квітнеючай і мірнай дзяржавай!"

Потым прысутныя ўсклалі вянкі да помніка.

Мітынг прадоўжыўся ля помніка французскім воінам, дзе выступіў Прэзідэнт Цэнтра Напалеонаўскіх даследванняў сп. Ф.Бакур. Менавіта дзякуючы намаганням сп.Ф.Бакура і з'явіўся на пачатку 90-х гадоў гэты помнік на барысаўскай зямлі. Сп.Бакур выказаў падзяку ўсім, хто дапамагаў яму ў гэтай справе. З падзякай беларускім уладам і ўсім беларусам выступіў таксама пасол Францыі. Да помніка былі ўскладзены вянкі.

Урачыстую частку змяніла на полі баталія, якую разыгралі сябры ваенна-гістарычных клубаў. Яна суправаджаліся моцнамі выбухамі. Прысутныя ўбачылі эпізод змагання за пераправу, які зрабіў вялікае ўраджанне на гледачоў, асабліва на хлопцаў і дзяўчат з барысаўскіх школ.

Пасля баталіі старшыня клуба "Менскі пяхотны полк" сп.В.Папоў у сувязі з пяцігоддзем клуба ўручыў узнагароды людзям, якія спрыяюць паспяховай дзейнасці клуба.

Напрыканцы імпрэзы ўсе прысутныя былі запрошаны на бівуак, які быў разбіты на беразе Бярэзіны. Тут удзельнікі і гледачы змаглі пазнаёміцца бліжэй, пагутарыць, пагрэцца ля вогнішчаў і паспрабаваць бульбы з тушонкай сапраўднай палявой кухні.

***Е.Граковіч***





*Бівуак пасля бою - самае прыемнае. Гэта магчымасць сагрэцца каля вогнішча і атрымаць порцыю смачнай кашы*







OPISANIE

POWIATU BORYSOWSKIEGO

WILNO,

1847.

Першая старонка кнігі Я.Тышкевіча "Апісанне Барысаўскага павета..." (зверху)

Сучасны стан рэшткаў палаца Тышкевічаў (злева)

Малюнак жыхароў з наваколля Барысава з кнігі "Апісанне Барысаўскага павета..." (знізу)



# Адсюль славілася Барысаўшчына

*Ёсць у Лагойску месца, якое непасрэдна звязана з Барысаўшчынай, яе мінулым. Гэта маёнтак Тышкевічаў. Яго рэшткі захаваліся да нашага часу.Без перабольшання можна сказаць, што калі б не яго гаспадары, якія ў сярэдзіне XIX зрабілі пераварот у развіцці краязнаўства не толькі ў нашым краі, але і на Беларусі наогул, мы б зараз пра былое нашага краю ведалі б значна меней.*

Яўстах Тышкевіч нарадзіўся ў Лагойску 6 красавіка 1814 года. Пачатковую адукацыю атрымаў у сваім мястэчку. Далей вучыўся ў гімназіі спачатку ў Вільні, потым у Менску. Па заканчэнні знаходзіўся на дзяржаўнай службе ў Пецярбурзе, Вільні, Харкаве. Але кожнае лета ён прыязджае на радзіму, каб удзельнічаць у археалагічных даследаваннях. У 1840 годзе ён вяртаецца дадому і амаль цалкам аддае сябе даследаванню роднага краю. Акрамя Лагойска, які на той час уваходзіў у Барысаўскі павет, ён асаблівую увагу надаваў Барысаву і Барысаўшчыне наогул. На тэрыторыі нашага краю Тышкевічам была зроблена вялікая колькасць раскопкаў. У сваёй справе ён увесь час падтрымліваў кантакты з такімі вядомымі беларускімі даследчыкамі даўніны, як П.Шпілеўскі, І.Крашэўскі і інш.



Яўстах Тышкевіч

У 1842 годзе Я.Тышкевіч разам з бацькам і старэйшым братам адкрывае ў сваім палацы хатні археалагічны музей. Пазней, калі ў Вільні быў утвораны музей старажытнасцей, яго аснову склаў менавіта збор Тышкевічаў.

У сярэдзіне 40-х гадоў ён прызначаецца ганаровым наглядчыкам вучылішча Барысаўскага павета. У 1848 годзе будуе за ўласныя сродкі будынак і перадае яго Барысаўскаму павятоваму вучылішчу. Я.Тышкевіч абіраецца маршалкам шляхты Барысаўскага павета.

Краязнаўца займаецца не толькі раскопкай курганоў. Ён даследуе розныя гістарычныя крыніцы, збірае фальклор, народныя традыцыі, абрады. Менавіта Я.Тышкевіч упершыню выказвае меркаванне, што Барысаў першапачаткова быў заснаваны ў раёне Старабарысава.

Найгалоўнейшай яго працай пра Барысаўшчыну стала яго кніга "Апісанне Барысаўскага павета пад поглядам статыстычным, геаграфічным, гістарычным, гаспадарчым, прамыслова – гандлёвым і лякарскім". Гэта фундаментальная праца, якая мае больш за 300 старонак і ахоплівае амаль усе бакі жыцця і мінуўшчыны нашага краю, убачыла свет на польскай мове ў Вільні ў 1848 годзе. Ніводны рэгіён Беларусі не меў на той час падобнага па значнасці выдання. За ўсю гісторыю нашага краю не было ніводнай іншай кнігі, якая па сваёй значнасці можа параўняцца з працай Тышкевіча. Усе больш позні́я аўтары прац пра наш край у большай ці меншай меры карысталіся друкаванай спадчынай Я.Тышкевіча.

Акрамя "Апісання Барысаўскага павета" ў Тышкевіча быў шэраг іншых прац. Не ўсе з іх былі завершаны і змаглі ўбачыць свет. Так, была не завершана і не надрукавана яго праца "Зельнік барысаўскіх ваколіц" і шэраг іншых. Памёр Яўстах Тышкевіч у Вільні 13 жніўня 1873 года.

Палац Тышкевічаў у Лагойску захоўваўся да апошняй вайны, калі і быў разбураны. Да сённяшняга часу захаваліся яго фрагменты і стары парк маёнтка.

***А.Барэвіч***





*Выгляд маёнтка Тышкевічаў у XIX стагоддзі; з гравюры Н.Орды (зверху). На загалоўным здымку паказаны сучасны стан правай часткі палаца*

*Сучасны стан каменнага маста маёнтка праз ручай (справа). На старым здымку ён бачны па цэнтры*

# Назвы нашых вуліц – як "радзімыя плямы" на целе

*Жыццяпіс Іосіфа Аляксандравіча Адамовіча (1897 – 1938), ураджэнца Барысава, імем якога названа ў нашым горадзе былая вуліца Школьная, сапраўды заслугоўвае асобай увагі.*

З ранняга дзяцінства ён пачаў працаваць на фабрыках Барысава, Менска, Крупак, Тыфліса (цяпер Тбілісі). У 1914 годзе быў прызваны ў армію, удзельнічаў у першай сусветнай вайне на Паўднёва – Заходнім і Румынскім франтах (старшы ўнтэр – афіцэр, узнагароджаны трыма Георгіеўскімі крыжамі). Напрыканцы 1916г. атрымаў у баі раненне і накіраваны на лячэнне ў Харкаў, адкуль за рэвалюцыйную дзейнасць датэрмінава адпраўлены на фронт.

Восенню 1917 – га дэмабілізаваны. Працаваў сакратаром Барысаўскага павятовага Савета. Член РСДРП з 1918г., арганізаваў рабочы атрад, на чале якога вёў змаганне з інтэрвентамі пад Барысавам, Магілёвам. З сакавіка 1918 г. у Смаленску ў штабе Чырвонай гвардыі (потым Чырвонай арміі) фармаваў палкі, якія спынілі наступ германскіх (кайзераўскіх) войск пад Смаленскам. Летам 1918-га назначаны памочнікам начальніка гарнізона і каменданта Смаленска, потым – начальнікам гарнізона і ваенным камісарам Смаленскай губерні. Пасля вызвалення Беларусі ад польскіх акупантаў І.Адамовіч – член Менскай губпарттройкі. Што гэта такае? Гэта калі тры чалавекі на працягу некалькіх хвілін вырашалі лёс арыштаванага. Як правіла, яго пускалі ў расход!

Затым І.Адамовіч – член ВРК БССР і ваенкам Беларусі. З верасня 1920г. – ён народны камісар вайсковых спраў БССР, са студзеня па сакавік 1921г. адначасова – наркам унутраных спраў БССР. З сакавіка 1924 па травень 1927г.г. – старшыня Савета народных Камісараў БССР, член Рэвваенсавета СССР (1924 – 1925г.г.) З травеня 1927г. – член Прэзідыума ВСНХ СССР, а таксама на іншых пасадах.

У 1932 годзе накіраваны на Далёкі Усход у якасці начальніка Камчацкага акцыянернага таварыства, кіраўніка цукровых і рыбакансерваваных прадпрыемстваў.

У абставінах масавых рэпрэсій інтуітыўна адчуў непазбежнасць расстрэлу за пэўныя памылкі ў сваёй бурнай дзейнасці: 22-04-1937 года І.А.Адамовіч скончыў жыццё самагубствам (застрэліўся). Трэба меркаваць, што гэты стрэл у сябе быў своеасаблівым дакорам стваральніку савецкай дзяржавы – зроблены менавіта 22 красавіка, калі ў краіне Саветаў адзначаўся традыцыйны Дзень нараджэння У.І.Леніна.

Па падліках вучоных сталінскі генацыд ў 30 - 40 – х г.г. каштаваў беларускаму народу амаль 2 млн. чалавечых жыццяў. Таму, мабыць, сёння мы маем тое, што маем: беларускую памяркоўнасць і абыякавасць да ўсяго.

***А.Шустоўскі***

# Тутэйшы кнігазбор

Нядаўна з друку ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі" выйшла першая кніга шостага тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Частка яе матэрыялаў мае дачыненне да Барысаўшчыны.

Амаль дзве старонкі выдання прысвечаны падзеям 1812 года каля Студзёнкі. Распавядаецца ў кнізе і пра курганную групу каля Пчэльніка. Надаецца ўвага і даследчыкам нашага краю —Яўстафію і Канстанціну Тышкевічам, вядомаму калекцыянеру і асветніку з Мсціжа Юзафу Слізню, грамадска – палітычным дзеячам XIX стагоддзя братам Антону і Баляславу Трусавым і інш. У энцыклапедыі гаворыцца пра шэраг Герояў Савецкага Саюза, якія нарадзіліся або звязаны з Барысаўшчынай. Гэта Міхаіл Рабцаў, Павел Рак, Уладзімір Рыжоў, Павел Тоўсцікаў і Аляксандр Пятраеў.

Дарэчы, са спісу раённых падпольных камітэтаў КП(б)Б, якія дзейнічалі падчас другой сусветнай вайны, вынікае, што Барысаўскі раён з'яўляецца адным з нямногіх, дзе райкам не існаваў наогул.

Сярод сённяшніх навукоўцаў, якія нарадзіліся ў Барысаве, у выданні прыводзяцца звесткі пра антраполага, доктара біялагічных навук Інэсу Салівон.

Барысаў або Барысаўшчына ўзгадваюцца і ў іншых матэрыялах энцыклапедычнага выдання.

***А.Барэвіч***

## Лістапад

Лістапад - канец восені, Ападае апошняе лісце з дрэў, адсюль яго назва. У сярэдзіне месяца вышыня сонца над гарызонтам апоўдні 17,6°. Сярэднемесячная тэмпература паветра на Беларусі ў лістападзе складае ад 2 до -1°С, абсалютны яе максімум дасягаў на поўначы 16° (Шаркоўшчына, 1968г.), на поўдні 25°С (Брэст, 1926г.); мінімум назіраўся ў Крычаве і дасягаў -33°С. З сярэдзіны месяца пачынаюць прамярзаць глебы. Пераважае суцэльная нізкая воблачнасць, за месяц ясны ў сярэднім 1 дзень, у асобных пунктах, напрыклад, Чачэрск - 2. Працягласць сонечнага ззяння - 51-48 гадзін (13-20% ад магчымага). У лістападзе, у параўнанні з вераснем, у 2 разы памяншаецца колькасць вільгаці ў паветры, але павялічваецца адносная вільготнасць: 87-92%. Выпадае снег, але яго покрыва яшчэ няўстойлівае. Часта бываюць туманы, у сярэднім туманныя 5-8 дзён, а ў нізінах колькасць такіх дзён дасягае 10-12. Дзён з ападкамі 15-18. Зацяжныя дажджы ў спалучэнні з невысокай тэмпературай часта выклікаюць паводкі на рэках. Нязначна павышаецца ўзровень вады ў азёрах. На мяжы лістапада-снежня пры тэмпературы паветра ніжэй 0°С на рэках пачынаецца шарош і крыгаход, які на буйных рэках папярэднічае ледаставу. Сярэднемесячная тэмпература вады рэк і азёр каля 2-4°.

Незвычайная з'ява ў лістападзе - вясёлка, але яна назіралася ў 1927, 1950, 1948 гадах.

У лістападзе гола ў садзе.

Лістапад снегу надзьме - хлеба прыбудзе, а вадою разальецца - летам сена набярэцца.

Аголеныя дрэвы і кусты ў лістападзе ствараюць ураждане прызрыстасці наваколля. Ападанне лістоў абумоўлена фізіялагічнымі працэсамі ў раслінах, якія ў ходзе эвалюцыі прыстасаваліся да неспрыяльных кліматычных умоў. Ва ўмераным поясе гэта звязана з халоднымі зімамі. Працягласць бязлістага перыяду ў ліпы, дуба, бярозы, вярбы, яблыні, кустоў амаль паўгода. У вечназялёных раслін: хвоі, елкі, брусніц, журавін лісце ападае паступова, звычайна перад пачаткам росту новых парасткаў. Такая замена стварае ілюзію іх вечнасці. Перад лістападам у лісцях распадаецца зялёны пігмент хларафіл, колер лісця змяняецца на чырвоны, жоўты і аранжавы, у сцябло, плады і насенне адцякаюць бялкі, вугляводы, мінеральныя злучэнні, каля асновы ліста паяўляецца аддзяляльны слой з нетрывалых клетак. Пад уплывам цяжару, вады, ветру яны разрываюцца, і ліст ападае. Скончыўся год жыцця...

У лістападзе да новых умоў рыхтуюцца жывёлы і птушкі. Пасяляюцца бліжэй да чалавека сініцы, сарокі, галкі і інш. Адлятаюць апошнія пралетныя качкі, белыя лебедзі, стайкі дзікіх галубоў. У апусцелым лесе застаюцца шпічухі, папаўзні, дзятлы, сойкі. Звяры назапашваюць корм. Заканчваецца лінька. Засынаюць мядзведзь, барсук, янотападобны сабака, большасць рыб, за выключэннем шчупака, акуня, ярша, мянтуза. Зайцы-белякі трымаюцца ў лясным гушчары, пакуль няма снегавога покрыву. Насякомыя закопваюцца ў мох, глебу, пад апалае лісце, забіваюцца ў расколіны дрэў.

У садах ачышчаюць кару ад шкоднікаў, здымаюць зімовыя гнёзды вусеняў баярышніцы і залатагузкі. Вакол дрэў ушчыльняюць снег. Працягваецца збор некаторых лекавых раслін, журавін, рабіны, збіраюць шышкі вольхі чорнай і шэрай, пупышкі бярозы павіслай, пушыстай і нізкай, чагу.

*Падрыхтаваў М.Пучыла*



# Бераг, дзе цябе чакалі

*Як хутка ўсё мяняе наш таропкі час. Зараз, калі Барысаўшчыну пакрыла сетка асфальтавых дарог, даволі спрытна можна патрапіць у любое месца раёна. І цяжка ўявіць, што яшчэ трыццаць гадоў назад дабрацца да горада нават з недалёкага Глівіна было нялёгкай справай. Што ж казаць пра больш аддаленыя вёскі, асабліва калі іх ад горада аддзяляла рака.*

Каб перапраўіцца цераз Бярэзіну, акрамя маста жыхары Барысава і раёна выкарыстоўвалі паромы. Дакладна вядома, што пасля другой сусветнай вайны ў горадзе іх было два: у раёне фабрыкі піяніна і ў залінейным раёне, каля папяровай фабрыкі. Першы, маючы на ўвазе блізкасць маста, не адыгрываў значнай ролі ў жыцці горада. Паром гэты быў пасажырскі, і ім карысталіся гараджане, каб хутчэй трапіць у старую частку горада. Ён спыніў сваё існаванне на пачатку 50-х гадоў, калі ў Барысаве з'явіўся аўтобусны маршрут ад чыгуначнага вакзала да старога рынка.

Паромная пераправа ля папяровай фабрыкі дзейнічала да другой паловы 70-х гадоў. Ёсць падставы лічыць, што гэтая пераправа мае даволі багатую гісторыю, ва ўсякім выпадку з часоў, калі пачала ўзрастаць роля новага горада. Жыхары вёсак паўднёвай левабярэжнай часткі Барысаўшчыны, напрыклад: Ухалоды, Мётчы і інш. перапраўляліся тут, каб патрапіць у горад. Добрая дарога з Ухалоды да маскоўскай шашы з'явілася толькі на пачатку 70-х гадоў 20-га стагоддзя. Ёсць звесткі, што ў міжваенны час і ў час другой сусветнай вайны пераправа дакладна існавала.

Апошнім паромшчыкам нашага горада быў Афанасій Самойлавіч Кірыкаў, які працаваў на пераправе больш за трыццаць гадоў. Напрыканцы 70-х паром быў закрыты, і вельмі хутка, у 1979 годзе, не стала і Афанасія Самойлавіча.

Яго сын, Пётр Афанасьевіч Кірыкаў, падлеткам дапамагаў бацьку. Ён расказвае, што ў сорак чацвёртым годзе, калі яго бацька яшчэ ваяваў, яму давялося разам з двума сябрамі перапраўляць цераз Бярэзіну наступаючых савецкіх вайскоўцаў. У той час, калі хлопцы вялі паром па рацэ, з тэрыторыі папяровай фабрыкі немцы пачалі страляць па пераправе. Адзін з хлапчукоў быў паранены ў нагу. Савецкія вайскоўцы хутка прымусілі змоўкнуць агнявую кропку, закідаўшы яе гранатамі.

Адразу пасля вайны, як успамінае Пётр Афанасьевіч, пераправай займалася ў прыватным парадку сям'я Сарокаў, якая жыла побач з паромам. У пачатку1946 года ён пераходзіць пад кіраўніцтва "Упраўлення малых рэк", якое месцілася на гарадской прыстані.



1 - Пасажырскі паром у залінейным раёне ў 70-х гадоў XX стагоддзя;
2 - Апошні барысаўскі паромшчык Афанасій Самойлавіч Кірыкаў (фота 70-х гадоў XX ст.)

Упраўленне арганізуе пастаянную работу абодвух паромаў. Праз некалькі год справамі парома пачаў займацца камунгас.

Афанасій Самойлавіч Кірыкаў, які прыйшоў з вайны без нагі, узначаліў брыгаду паромшчыкаў на пераправе ля папяровай фабрыкі. Акрамя яго ў брыгадзе было яшчэ тры чалавекі – жыхары навальных вуліц: Баркоўскі, Лукашэвіч, таксама інваліды вайны, і адна кабета, удава па прозвішчу Луцэвіч. Трохі пазней Баркоўскага на пароме змяніў мясцовы жыхар Анісавец.

Працавалі паромшчыкі ў дзве змены. На беразе стаяла адмысловая будка для продажу білетаў. Білет да рэформы каштаваў 5 капеек, а перавоз аднаго вазка – 50 капеек. Фактычна паромаў было два: адзін - грузавы, другі - пасажырскі. Грузавы паром меў памеры 9х9м. і змяшчаў адначасова чатыры пустыя вазкі разам з конямі альбо два гружаныя. А грузілі вазкі добра – да 30 пудоў. Гэты паром мог узяць на борт адразу сто вайскоўцаў. Пасажырскі паром быў зроблены з двух вялікіх, змацаваных між сабой лодак.

Людзі часта не мелі грошай, каб заплаціць за перавоз вазка, і тады ўпрошвалі паромшчыка ўзяць плату нечым іншым. Пётр Афанасьевіч успамінае, што многія людзі з вёсак прапаноўвалі ў якасці платы сярэбраныя паўрублёўкі яшчэ царскіх часоў. Дома ў іх скапілася каля дваццаці такіх царскіх манет. Хлапчукі з навакольных вуліц, калі беглі ў лес за раку, прасіліся перавезці іх так, а плацілі ўласнай працай: ускочыўшы ў лодку, пачыналі старанна цягнуць паром замест паромшчыка.

Пра вялікае значэнне пераправы ў тыя часы красамоўна сведчыць такі факт. За ракой знаходзіліся сенажаці, якія належылі гаспадарцы ў Любатоўшчыне. Але адсутнасць добрага шляху па левым беразе прымушала любатоўцаў скошанае сена вывозіць цераз паром на правы бераг, а потым цераз горад і мост зноў везці на левы бок у Любатоўшчыну.

Калі была пабудавана дарога на Ухалоду, паром пачаў губляць сваё значэнне і выкарыстоўваўся пераважна жыхарамі залінейнага раёна, якім трэба было трапіць на той бок па грыбы, ягады ці яшчэ па нейкай справе. Патрэба ў грузавым пароме адпала, і дзядзька Кірык, як называлі яго мясцовыя жыхары, перавозіў толькі людзей.

Гэта былі часы заняпаду парома, але, мабыць, яны былі самымі рамантычнымі ў яго гісторыі. Як хораша было падысці на досвітку да ракі, дзе ўжо чакаў пасажыраў стары паромшчык, і плысці цераз раку праз туман, слухаючы, як рыпіць паром і ціха журчыць абапал лодкі вада, а потым вяртацца з поўным кошыкам з лесу пад спякотным сонцам, ведаючы, што цябе на беразе чакаюць.

Пустынна зараз на месцы былога парома, толькі кольцы старога троса выглядаюць з мокрага прыбярэжнага пяску...

*Е.Граковіч*

## Пасажыры звярнулі ўвагу

Пад такой назвай у адным з нашых нумароў быў змешчаны артыкул, які паведамляў пра тое, як Барысаўская чыгуначная станцыя спраслiла свае абавязкі перад пасажырамі, выкінуўшы з ужытку беларускую мову.

Назва ж былога артыкула цалкам адпавядае таму, што хочацца сказаць у гэтым матэрыяле. Справа ў тым, што нашы чытачы паведамілі ў газету аб тым, як яны, сядаючы ў Маскве на цягнік Масква - Менск, пачулі аб'яву дыктара спачатку па-руску, затым - па-беларуску.

Ну што тут скажаш. У адносінах да барысаўскіх герояў бярэцца напомніць адну ісціну, што калі сам сябе не паважаеш, то тым больш цябе не будуць паважаць іншыя.

*М.Пучыла*

# Ахоўваюцца дзяржавай? Няўжо!?

*Каля вёскі Дудзінка ў пойме Бярэзіны ёсць два вялікія камяні. Ужо колькі год каля іх стаіць шыльдачка, якая сцвярджае, што камяні ахоўваюцца дзяржавай.*





*Тым не менш каля аднаго з іх утвораны невялікі сметнік, а ад другога засталіся толькі кавалкі.*

*Калі гэта і ёсць "ахова", то лепей бы іх не ахоўвалі. Ці можа шыльда гэта толькі чыйсьці жарт? "Ландшафт" каля яе лагічна дапаўняе (відаць, не першы год) пустая бутэлька.*

*Я.Юроўскі*



*7 лістапада мы, супрацоўнікі газеты "Гоман Барысаўшчыны", вярталіся з чарговай вандроўкі (на гэты раз з Лагойска). У Зембіне недалёка ад скрыжавання дарог у вочы кінулася пустка. Яшчэ нядаўна тут стаяў дом, дзе жыў славуты яўрэйскі паэт Ізі Харык.*

*Усё, што засталося ад дома Ізі Харыка (злева)*

*Так выглядаў дом Ізі Харыка летам 2000 года (знізу)*

# Знік дом, знікае памяць



На нашу просьбу патлумачыць сітуацыю суседзі расказалі, а пазней у тэлефоннай размове старшыня Зембінскага сельскага савета пацвердзіў, што дом даўно нікому не належыў, знаходзіўся ў аварыйным стане, з яго вынеслі ўсё, што толькі можна было вынесці, дзеці ладзілі ў ім свае гульні, палілі вогнішчы.

У сярэдзіне кастрычніка з дазволу раённых уладаў салдаты на чале з бацюшкам будуемага ў Лядзішчах храма за двое сутак разабралі і вывезлі дом.

У свой час яўрэйская суполка "Святло Мяноры" планавала павесіць на дом памятную шыльду. Нешта перашкодзіла – не павесілі, а цяпер і вешаць няма на чым. Вядома,няма нічога вечнага. Дом рана ці позна прыйшлося б разбіраць. З гэтым, пэўна, трэба зміры́цца, бо да такіх раскошаў, як рэстаўрацыя, стварэнне мемарыялу ці літаратурнага дома-музея мы, на жаль, не дараслі.

Гэтая ж гісторыя пакідае без адказу адно, але непрыемнае пытанне: што можна скарыстаць з гэтага старога дома для будоўлі новай царквы?

***І.Белы***

# Стварэнне Барысава

*Напярэдадні 900-годдзя нашага горада адчуваецца ўсё большая цікавасць да яго гісторыі. На жаль, далёка не ўсе яе старонкі дастаткова даследаваны, маюць дакументальнае апісанне. Тыя ж факты, якія не маюць тлумачэння, чалавек заўсёды спрабаваў растлумачыць сам. Так узнікалі паданні, міфы і іншыя народныя творы. Яны нярэдка мелі багатую творчую аздобу.*

*А як зараз можна было б растлумачыць такі факт, як заснаванне Барысава? І зрабіць гэта нашай жывой, багатай мовай, без сухіх гістарычных фактаў... Такім чынам, прапануем вам сучаснае паданне пра заснаванне Барысава.*

Даўнія былі гэта часы. На месцы нашага славутага Барысава раслі густыя лясы, у якіх хадзілі дзікія звяры. І не было навокал жывой душы. Маці Прырода панавала тут, а жывёлы былі яе падданымі. Праходзілі стагоддзі, а асяроддзе нічолькі не змянялася. Маці Прырода аддавала загады, а дрэвы, звяры і нават рака Бярэзіна выконвалі іх.

З цягам часу рака рабілася ўсе шырэй і шырэй за кошт маленькіх ручаёў і лужын, адкуль яна брала ваду. Было вельмі шмат рыбы ў Бярэзіне, але ўсё роўна рака адчувала, што здольна зрабіць многа болей, чым проста несці свае воды да бацькі Дняпра.

Аднойчы вырашыла Бярэзіна звярнуцца да Прыроды, каб тая параіла ёй , куды скіраваць сваю моц і энергію. Мудрая маці доўга думала, што б параіць сваёй дачцэ. Роздум яе працягваўся "амаль што тры стагоддзі, а потым Прырода і кажа: "Рака мая, Бярэзіна! Вось ты бачыш мае ўладанні, гэтыя неабсяжныя абшары. Даліны, лясы, узгоркі і звяры - усё гэта маё. Ты таксама мая дачка, і я цябе вельмі кахаю. Шмат стагоддзяў прайшло, пакуль набрала ты сваю моц, пакуль стала ты такой прыгожай і паўнаводнай. Дык зрабі ты тое, чым і ты, і я, і ўсе навокал ганарыліся б. Зрабі такую незвычайную справу, каб назаўсёды пакінуць след у жыцці!"

Вельмі ўразілі гэтыя словы маладую і моцную Бярэзіну. І пачала яна думаць пра самую вялікую справу ў яе жыцці.

Доўга яна думала, але нічога не магла прыдумаць. Праходзілі гады, а наваколле нічолькі не змянялася. Бярэзіна несла свае блакітныя хвалі да Дняпра і вельмі сумавала, бо не ведала, што б ёй такое зрабіць.

Убачыў бацька Днепр, што сумуе яго любімая дачка,і спытаў: "Што здарылася, мая прыгажуня Бярэзіна? Чаму ты так пакутуеш?" І адказвае яму рака: "Бацька! Вельмі жадаю я зрабіць тое, што назаўсёды застанецца як памяць аб маёй моцы. Але не ведаю я, што пакіне вечны след у жыцці."

Задумаўся Дняпро і раптам кажа:

- Бачыш, што гэта плыве па маіх водах?

- Бачу нейкі кавалак дрэва.

- А бачыш, хто гэта стаіць на тым далёкім беразе?

- Нейкія жывелы, але без шэрсці. А хто гэта?

- Гэта людзі - найразумнейшыя істоты, а ў тым кавалку дрэва (яны называюць яго лодкай) ляжыць іх сын. Яго людзі ахвяравалі мне, каб я не затапляў іхнія гарады і вёскі. Дык вось вазьмі гэтую ахвяру сабе і выгадуй з яе чалавека. І ён зробіць тое, што пакіне след на ўсё жыццё!"

- Дзякую табе,бацька Дняпро, - адказала Бярэзіна. - Я зраблюся сапраўднай маці гэтай істоце, а ён будзе маім сынам.

І з гэтымі словамі рака падхапіла лодку з сынам чалавечым і панесла яе далёка ад берага да сваёй маці Прыроды. Спынілася лодка каля лесу, адкуль і ўбачыла чалавека Прырода. Убачыла яна яго і ўздыхнула:

- Ведаю, Бярэзіна, што параіў табе зрабіць Дняпро. Але вельмі хвалююся я, каб дабром усе гэта скончылася!

- Гэта цяпер мой сын, - адказала рака. - І я выгадую яго, а ён зробіць тое, чым ты і я будзем ганарыцца ўсё жыццё.

- Ой, каб не скончылася ўсё гэта бядою, - прамовіла маці Прырода.

...Прайшоў час. Вырас сын чалавечы. Звяры прыносілі яму ежу, лес быў яму хатай, а рака - маці. Барысам назвалі чалавека, таму што заўсёды засынаў ён у бары, пад шум дрэў.

Аднойчы засумаваў Барыс. Убачыла гэта яго маці Бярэзіна і кажа:

- Што ж здарылася з табою, сын мой?

- Маці, сумую я па роду чалавечаму. Я вельмі жадаю бачыць людзей вакол сябе. Дазволь мне сесці ў лодку і прывезці сюды некалькі чалавек.

І рака дазволіла яму зрабіць гэта.

З'явіліся тут людзі, а маці Прырода яшчэ больш захвалявалася. І заснаваў Барыс горад на гэтым месцы, і назваў яго Барысавам. І пакінуў ён свой след тут на ўсё жыццё, таму што горад рос і мацнеў, а людзі праслаўлялі яго сваімі геройскімі ўчынкамі, сваім талентамі, сваёй мужнасцю.

...Але сёння яшчэ больш хвалюецца маці Прырода. Дачка яе, рака Бярэзіна, вельмі аслабела. Шмат лясоў загінула, шмат жывёл і птушак памерла. І пацяху просіць маці Прырода дапамогі ў людзей. Але ці чуе яе хто-небудзь?

***Д.Яфімава, 11 клас***

# Прапагандуйце сваю гісторыю

Сёлета беларускаму мястэчку Халопенічы споўнілася 550 год. Дзякуючы патрыятызму і намаганням Крупскага краязнаўцы з 16-гадовым стажам Андрэя Аляхновіча, ураджэнца Халопеніч, з'явілася вось гэткая адметная налепка: "Маім Халопенічам – 550".




Што ні кажы, а нашу старажытную гісторыю мы не заўжды прапагандуем належным чынам.

Так, трэба ганарыцца і прапагандаваць праз нумізматыку, фалерыстыку і г.д. усё каштоўнае і велічнае, што ёсць у Беларусі. Толькі тады мы сапраўды зоймем сваё пачэснае месца ў Еўропе і ў свеце.

***А.Шустоўскі***

# Марныя спадзяванні

Шмат хто чакаў набліжэнне 900-годдзя Барысава з думкамі аб тым, што яно ў рэшце рэшт дазволіць аднавіць ці законсерваваць у сённяшнім стане найбольш старыя і цікавыя куткі горада. Аднак спадзяванні засталіся марнымі. Больш таго, пад тлумачэнні, што на аднаўленне старога асяроддзя ў горадзе бракуе сродкаў, актыўна вынішчаюцца нават тыя гістарычныя аб'екты, што яшчэ захаваліся. Факты, якія сведчаць аб гэтым, не раз прыводзіліся на старонках газеты "Гоман Барысаўшчыны".

Мы здзіўляемся, чаму ў нас рэжуць сядзенні ў аўтобусах, ламаюць усё, што магчыма зламаць. Той - сёй з моладзі вынішчае ўсё, што вакол яго. Падрыхтоўка да юбілею Барысава ды не толькі яна паказала, што гэтыя праблемы ў нас значна больш глыбейшыя, чым можа падацца на першы погляд. Моладзі ёсць з каго браць "прыклад". Шкада, але большасць з таго, што мы зараз "наробім", выправіць будзе немагчыма або яго выпраўленне будзе патрабаваць велізарных укладанняў. Ці даруюць нам гэта нашы нашчадкі?

***В.Стэфановіч***

# *Наша гацёўня*

***Дзмітрый Самойленка***

## Разводы

Чуваць паўсюль: развод, развод...
Разводы сталі нават модай.
І ўсё іх больш і больш штогод
Сярод юнацкага народа.

Здаецца, ЗАГС мацуе шлюб
І ўсё па новаму абраду,
Каб быў адзін другому люб,
Але ў жыцці няма штось ладу.

Там пажаданняў вельмі шмат,
Бы ў палісадніку тым кветак.
Папераў там дык цэлы склад
І, як грыбоў у лесе, сведак.

У ЗАГС ідзе машын картэж.
Затым да помнікаў імчацца.
Няма раскошам, здэцца, меж,
А вось "забыліся" вянчацца.

Гудзе вясельны рэстаран.
Там крыкі "горка", пацалункі,
А ўжо праз месяц – паўтара
Нясе ад мужа жонка клункі.

Не бачна ладу ў маладых
З такіх абрадаў і папераў.
Патрэбна, каб у сэрцах іх
Жыла трывала ў Бога вера.

## Маладосць і старасць

Бы ўюн, калісьці быў я жвавы,
Цяпер ляжу, нібы палена.
Як дуб, тады быў кучаравы,
Цяпер я лысы, як палена.

Тады, як ружы, ззялі губы,
Цяпер яны, як пуп гусіны,
І, як часнок, бялелі зубы,
Цяпер, як вуліцы, шчарбіны.

Як слуп, калісьці быў я стромкі,
Стаў на дугу цяпер падобны.
Як гук струны, быў голас звонкі,
Цяпер, як ветру шум, жалобны.

Быў спрытны я, як хмель той гнуткі,
Цяпер, нібы авечка, млявы,
І, як чарот, тады быў чуткі,
Цяпер глухі, як пень трухлявы.

Хадзіць далёка быў ахвочы,
Цяпер ля хаты толькі крочу.
І, як сава, я бачыў ноччу,
Цяпер жа я чатырохвочы.

## Бярозкі — сёстры

**(*Унучкам Марыі і Веры*)**

Пад летняй спёкай побач з вёскай,
Каля шаўковай ярыны,
Стаяць дзве рослыя бярозкі,
Аб нечым мараць - сняць яны.

І раптам дождж з свінцовай хмары
Сцюдзёны, спорны шугануў,
Развеяў ён іх думы - мары,
Настрой вясёлы ім вярнуў.

Дождж грабянцом шкляным, празрыстым
Бярозам косы расчасаў
І ў той жа час крышталем чыстым
З галін, як пацеркі, звісаў.

Памыў бярозы, надухмяніў,
Інакшы выгляд ім надаў.
Каб на сябе зірнулі самі,
З вады ён люстры ўнізе даў.

***А.Вашкевіч, А.Кажамякін***

## Наш Барысаў

Углядаюся ў родныя рысы:
Парк культуры, музей, стадыён...
Гэта мужны і вечны Барысаў
К нам прыйшоў цераз часу палон.

Тут Бярэзіны плыткія воды
У мінулае ціха плывуць,
З успамінам сваім карагоды
Тут адвечныя дрэвы вядуць.

І не раз, і не два у наш горад
З чорнай зброяй страшэннай вайны
Набрыдаў к нам бязлітасны вораг,
На людзей каб надзець кайданы.

Не ўнікалі барысаўцы бою –
І быў горад свабодны заўжды,
Бо яго вызвалялі з няволі
Гараджане – ўдалыя сыны.

Ён і зараз стаіць непакорны,
Не забыўшы сваю даўніну,
Збудаваны на зорных прасторах
Ужо колькі стагоддзяў таму.

Любы дружа, ў хадзе прыпыніся,
Паглядзі на прасторы, палі.
І Барысаву ты пакланіся,
Пакланіся да самай зямлі.

# Да культуры праз адукацыю

*Супрацоўнікі аддзела беларусістыкі і краязнаўства Цэнтральнай гарадской бібліятэкі правялі "Дзень спецыяліста" для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры. У сустрэчы бралі ўдзел госці з Менска: галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась Шавыркін і рэдактар аддзела філалогіі Ларыса Сагановіч.*

Гэта была сустрэча аднадумцаў, вельмі цікавая і карысная для ўсіх яе ўдзельнікаў. Загадчыца чытальнай залі І.Карпава расказала пра новыя публікацыі ў перыядычным друку твораў беларускіх пісьменнікаў І.Шамякіна, В.Быкава, А.Савіцкага, Г.Багданавай. Настаўнікі-беларусісты праслухалі фрагмент літаратурнага ўрока "У зачараваным царстве" па творчасці М.Багдановіча, які суправаджаўся паказам відэаматэрыялаў. Урок падрыхтаваны супрацоўніцай аддзела Л.Ціхановіч. Спадарыня Ціхановіч зрабіла таксама паведамленне пра стан сучаснага літаратурнага жыцця нашага краю, распавяла пра тое, якую літаратуру пра Барысаўшчыну можна знайці ў фондах Цэнтральнай гарадской бібліятэкі.

Цікавая размова адбылася з супрацоўнікамі часопіса, якія распавялі пра сваю працу і падзяліліся з калегамі сваімі праблемамі. Глыбокія і разнастайныя публікацыі часопіса на філалагічныя тэмы, пра методыкі выкладання мовы і літаратуры, пра творчасць пісьменнікаў і мастакоў дапамагаюць настаўнікам-беларусістам у іх штодзённай працы, пашыраюць іх прафесійны кругазор. "Галоўная пазіцыя часопіса, - адзначыў Міхась Мікалаевіч, - дапамагчы выхаваць асобу, сфарміраваць эстэтычную культуру школьніка, выхаваць цягу да характа".

*Н.Шабека, метадыстка ЦГБ*

# Ёсць чаму пацешыцца

Міністэрства культуры выдзеліла 16 млн.руб. на развіццё культурных устаноў Барысаўскага раёна.Мэта дапамогі – спрыяць развіццю народнай творчасці на Барысаўшчыне.

* * *

Выйшаў у свет зборнік твораў маладых паэтаў Барысаўшчыны "Шукай усяму пачатак". Выданне зборніка фінансавалі раённы камітэт БПСМ і Менскі абласны камітэт БПСМ.

* * *

З 23 па 25 лістапада барысаўскі народны тэатр "Відарыс" удзельнічаў у якасці гасця ў тэатральным фестывалі ў горадзе Беразіно. Такі статус яму дазволіла мець перамога на гэтым фестывалі ў мінулы раз.

*Служба інфармацыі "ГБ"*



# Выстава маладых мастачак

*З 12 лістапада па 4 снежня ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы праводзіцца выстава маладых мастачак. На ёй прадстаўлены творы В.Баранецкай, В.Зверавай, Н.Бараноўскай і Н.Стральчонак.*

Вольга Баранецкая нарадзілася ў 1982 годзе ў Барысаве.У 1993 годзе паступіла ў Барысаўскую мастацкую школу, якую скончыла ў 1998 годзе. Пасля яе заканчэння яшчэ год займалася ў Баяранкі Станіслава Іванавіча. У 1997 годзе ўдзельнічала ў рэспубліканскім конкурсе маладых мастакоў у Маладзечна, заняла там другое месца. У 1999 годзе паступіла ў Беларускі дзяржаўны каледж мастацтваў, дзе і займаецца па сённяшні час.

Вольга Зверава нарадзілася ў 1983 годзе. Вучылася ў СШ № 2 на мастацкім аддзяленні. Пасля заканчэння дзевятага класа паступіла ў Беларускі дзяржаўны каледж мастацтваў. Сёлета паступіла ў Беларускую акадэмію мастацтваў на факультэт дызайна, спецыяльнасць "Праектаванне выстаў і рэклама".

Наталля Бараноўская нарадзілася ў 1980 годзе. У 1995 годзе скончыла 9 класаў у СШ № 22. Паралельна вучылася ў Барысаўскай мастацкай школе, якую скончыла з адзнакай. У 1995 годзе паступіла ў Барысаўскі педагагічны каледж, дзе працягвала мастацкую адукацыю. У 1998 годзе прыняла ўдзел у рэспубліканскай мастацкай алімпіядзе ў Віцебску і заняла ў ёй чацвёртае месца. У 1999 годзе паступіла ў Беларускі педагагічны універсітэт імя М.Танка.

Наталля Стральчонак нарадзілася ў 1969 годзе ў Лепелі Віцебскай вобласці. Вучылася маляваць у выяўленчых студыях г.Менска. У 2000 годзе паступіла ў Віцебскі дзяржаўны універсітэт на мастацка-графічнае аддзяленне.

*С.Чарнуха*

# Друцкія карані і галіны майго радаводу

***(Працяг, пачатак у № 10 (31))***

Бацька ўсё пасляваеннае жыццё аж да самага выхаду на пенсію працаваў саўгасным конюхам. Ці не таму, як удала заўважыў Янка ў адным сваім вершы,

**І цені коней над ракой**
**Мой зірк цягнулі, чаравалі.**
**Святая ноч, святы спакой**
**Памалу ў вечнасць адплывалі.**

Ужо потым, калі я паехаў самым першым з усіх нашых невялічкіх Астровак у Менск набываць вышэйшую адукацыю, узяў у "ленінцы" слоўнік асабовых імёнаў, знайшоў імя Піліп... і не паверыў сваім вачам. У старажытнагрэчаскай мове імя Піліп атрымліваў чалавек, які вельмі любіў коней. А як любіў іх бацька - пра гэта можна пісаць не толькі вершы, але і апаваданні, аповесці і раманы. Ці не таму сёння, калі нават ненаўмысна недзе ў жыцці спатыкаешся, калі ад тваіх слоў і паводзінаў горка і балюча становіцца другім людзям, тады імгненна ўспамінаеш бацьку - і гарыш, гарыш ад сораму. І стараешся не паўтараць больш такіх памылак. І не таму, што ён прадаўжае заставацца тваім самым родным і блізкім чалавекам, а толькі таму, што так яно было на самай справе. Мусіш радавацца бацькавай заўсёднай дабраце. Дрэнных спраў у жыцці ён ніколі не рабіў. Жыў заўсёды проста, ясна, адкрыта і празрыста. Меў да шаснаццаці вулляў пчол у сваім садзе, у добрыя сухія леты збіраў дастаткова мёду, бескарысна разам з маці раздаваў яго сваім родным, блізкім, знаёмым, суседзям, аднавяскоўцам, але ніколі не узяў ніводнай капейкі грашыма.

Помніцца, кожным летам многа наязджала з гарадоў на канікулы ўнукаў астроўскіх людзей. Трэба было бачыць, як яны хадзілі днямі за дзедам Піліпам, і кожнаму ён знаходзіў добрае, патрэбнае і ласкавае слова. Ну, а якой радасцю свяціліся іх тварыкі і вачаняты, калі ён дазваляў праехацца ім конна, трэба было толькі бачыць!

Бацька любіў вельмі расказваць. Было пра што: пра даўнія і вельмі цікавыя гісторыі з жыцця астроўскіх людзей, пра вайну, пра лясныя здарэнні, пра сур'ёзныя і смешныя выпадкі з жыцця. Я ўжо значна пазней, пасля універсітэцкай вучобы, пад шосты ці сёмы перачыт рамана-эпапеі Льва Талстога "Вайна і мір" даволі дакладна раз і назаўсёды знайшоў дзівоснае падабенства майго роднага Піліпа Лайкова з Платонам Каратаевым. Было хіба толькі і застаецца зараз адно істотнае адрозненне ў тыпажы гэтых людзей: напрыклад, Платон Каратаеў любіў расказваць гісторыі жыцця, але не мог ніколі паўтарыць адну і тую ж гісторыю двойчы (значыць, усе выдумляў). Піліп жа Лайкоў дзесяткі разоў дакладна і ясна паўтараў свае жыццёвыя расказы (значыць, заўсёды гаварыў толькі праўду, не мог і не любіў нешта прыдумваць).

Ён вельмі любіў жыццё. У апошнія свае гады жыцця, калі гаварыў, што "матор" стаў вельмі часта падводзіць, ён вельмі хацеў жыць. Бо быў заўсёды аптымістам, цяжкасці толькі ўмацоўвалі яго характар і волю. А дапрэсій ён ніколі ўвогуле не прызнаваў. Корпаўся сабе на двары, мармытаў заўсёды пад нос нешта накшталт сваёй любімай песні:

**В диких степях Забайкалья,**
**Где золото роют в горах,**
**Бродяга судьбу проклиная,**
**Тащится с сумой на плечах...**

Адышоў бацька з жыцця ціха і няспешна, у родным куце і ў роднай хаце, на любімай сваёй заўсёды цёплай грубцы, на другі дзень апошніх у дваццатым стагоддзі Калядаў. Мне здаецца, калі б прыйшлося быць з ім у тую хвіліну і калі б у бацькі былі моца і час развітацца з усімі сваімі роднымі і сваякамі, то ён, несумненна, са слязьмі на вачах сказаў бы ўсім нам сваё апошняе зразумелае: "Бывайце".- Толькі б застыла на твары недаўменне: "Як жа я без вас буду ТАМ? Як гэта я пакіну назаўсёды лясы, дарогі, гэтыя Сцяпанавы, Герасімавы, Максімавы, Аверчыхіны, Лайковы хутары? Хто сходзіць за мяне на Гарыватку і Плянтоўку. У Забор'е, Лагі, Дзяныгубку. Кіявец. Бяляны, Бобрык і Абчугу? І няўжо летам не прыйдзецца пахадзіць за баравікамі, а восенню — за апенькамі? Хто пабачыць за мяне ўсход і заход сонца, адчуе восенькае шапаценне апалай лістоты?..."

Тады, у апошнюю ноч развітання з бацькам, самі сабой склаліся словы ў радкі, якія я з болем сказаў на могілках, ля грудка жоўтага пясочку, на апошнім зямным прыстанку роднага, любімага чалавека.

**Бацька наш родны,**
**На схіле стагоддзя**
**Адыходзіш у шлях другі,**
**Адыходзіш маўкліва**
**Ад чаго нам балюча,**
**Нясцерпна самотна,**
**Любілі і любім заўсёдна,**
**Бо дабру нас вучыў**
**І лепшым на свеце ўсім**
**Бацькам нашым ты быў.**
**Быў, ёсць ты і будзеш**
**Беларусам-вяскоўцам.**
**Чалавекам ціхмянай душы –**
**І адзіным у свеце Астроўкі,**
**Добрыя людзі яе**
**Забіраюць цябе дадому**
**З гасцей на пагост.**

**Ты пакідаш навечна**
**Белы свет, што любіў.**
**Лёс не песціў ніколі –**
**Хутарскі адбываўся разбой,**
**Маладыя гады забірала вайна.**
**Што тваіх пагубіла братоў.**
**Пакрысе загаіліся раны,**
**Абзавёўся уласнай сям'ёй.**
**Многа пачуў і пабачыў.**
**Распавеў ты нямала гісторый,**
**А колькі працы зрабіў,**
**І як маму ты нашу любіў.**

**І вось пакідаеш навечна**
**Белы свет, што любіў.**
**Бацька наш, мы пакуль**
**На гэтым застанемся свеце,**
**Каб дажыць, далюбіць,**
**Каб цябе не забыць –**
**Помніць самім,**
**Дзецям нашым і ўнукам.**
**Не крыўдуй ТАМ на нас**
**І даруй усе нашы правіны.**
**Адпускай к нам душу**
**У хату сваю - па навіны.**

Нялёгка перажывае страту свайго роднага і блізкага чалавека мая маці, Валянціна Апанасаўна Лайкова (дзявочае прозвішча Курчова). Вось і зусім нядаўна сядзелі мы ўсе разам у Мётчы за нашым самаварам, і маці не-не і прыгадае той ці іншы выпадак з ранейшага жыцця. Напрыклад, пра першае сваё знаёмства з бацькам, пра яго працавітасць, пра яго шчырыя і сардэчныя адносіны да яе радні. Сапраўды, род Курчовых у нашых карэннях друцкага радаводу асаблівы і вельмі цікавы, пра што і пра каго ў нашым эсэ мы зараз і пагаворым.

А пачнем гэтую частку размовы з яшчэ аднаго ўспаміну маёй маці. Некалькі разоў, калі яна яшчэ была дзяўчынкай і жыла ў сваёй роднай вёсцы Хватынка, прыйшлося ёй, разам са сваёй маці, маёй бабуляй Маланняй, хадзіць да радзіны ў вёску Друцк. Няблізкі шлях, але і не вельмі далёкі, калі ў адзін дзень паспявалі, захапіўшы крыху прыцемку, вярнуцца назад. Са слоў старэйшых людзей яны нешта чулі пра гэты самы Друцк, пра вялікую і слаўную яго гісторыю. Пасля ўжо, у Абчугскай школе ад настаўніка гісторыі, маці даведалася, што друцкі князь Васіль Міхайлавіч і яго жонка Васіліса пазначылі на пергаменце першую, але вельмі значную падзею на гэтай зямлі - будаўніцтва ў горадзе ў 1001 годзе царквы Прасвятой Багародзіцы.

*(Працяг будзе)*

*У.Лайкоў*



# Дзіцячы тэатр

У Цэнтральнай гарадской бібліятэцы існуе ўжо 3 месяцы дзіцячы тэатр "Творешник". Мастацкі кіраўнік Крыцкая Людміла Сцяпанаўна. Гэты клуб вельмі карысны для дзяцей. Яны тут атрымліваюць харэаграфічную адукацыю. У час заняткаў у іх фарміруецца правільная асанка, артыстызм. Акрамя таго, у навучэнцаў ёсць магчымасць пазабавіцца ад уплыву вуліцы.

*С.Чарнуха*

# Музычныя навіны

*Наша газета ў нумарах 9(18) за 2000 год і 3(24) за 2001 год пад рубрыкай "Тутэйшая рок-энцыклапедыя" падрабязна распавядала пра шмат якія барысаўскія гурты. З таго часу ў іх адбылося нямала змен і цікавых падзей. Сёння з асобнымі з іх прапануем пазнаёміцца нашым чытачам.*

### Грошы

Гурт "Грошы" запісаў новы альбом, які, аднак, не быў растыражаваны з-за дрэннай якасці запісу. Зараз удзельнікі гурта працуюць над новай праграмай, выступаюць у Star-клубе ў Менску. У бліжэйшы час гурт мае намер правесці ў Палацы культуры музычны фестываль.

### Крышталь DAY

На сённяшні момант гурт пакінулі два яго ўдзельнікі, якія паступілі ў навучальныя ўстановы Менска. Тым не менш гурт "Крышталь DAY" працягвае праводзіць свае рэпетыцыі і адначасова шукае замену сышоўшым музыкам.

### Негатыў

Гурт "Негатыў" працягвае працу над сваім першым альбомам.

### Green Gay

Гурт "Green Gay" распаўся. Два яго музыкі з Барысава аб'ядналіся з хлопцамі з Жодзіна. У выніку быў утвораны новы гурт "Master strong". На сённяшні час удзельнікі новага гурта ўзмоцнена рэпетыруюць і рыхтуюцца да ўдзелу ў фестывалі B.Saishen.

### 2MSD

Гурт "2MSD" распаўся.

*Падрыхтаваў А.Ухалін*


Футбольны сезон завершаны...

# Спартыўны агляд

***Футбол***

## БАТЭ

**Тарпеда – МАЗ (Мінск) – БАТЭ,** 1:4 (Ганчарык 22, 37, 69; Канцавы 58; Швыдакоў 78)

З пачатку гульні стала зразумела, што госці знаходзяцца ў лепшым фізічным стане. Гэта выявілася на 22-й хвіліне, калі футбалісты БАТЭ адкрылі лік. Ганчарык удала выканаў штрафны ўдар. Пасля гэтага Тарпеда больш валодала мячом, але нейкай карысці гэта гаспадарам не прыносіла. Напрыканцы першай паловы гульні брамнік Тарпеда Яскові ч няўдала выбіў мяч на нагу Ганчарыку, а Арцём свайго шансу не ўпусціў.

Трэці мяч на сумленні абаронцы Тарпеда Бранфілава, які стаў абводзіць двух сапернікаў у сваёй штрафной, у выніку мяч трапіў да Канцавога, і лік стаў 3 : 0. Выдатную тэхніку валодання мячом паказаў Ганчарык, тым самым падмануў абаронцу і брамніка, прабіў у вугал. Лік стаў 4 : 0. Разгром. Але мінчане здолелі забіць мяч у адказ. Гэта зрабіў Швыдакоў.

* * *

**БАТЭ – Днепр – Трансмаш (Магілёў),** 2:0 (Кабец 78; Канцавы 85).

Перавага гаспадароў вызначылася прыкладна ў другой палове першага тайма. Але галоўным козырам гасцей быў рост. Футбалісты з Магілёва значна вышэй. Гэта давала ім перавагу на другім паверсе. Асабліва шмат непрыемнасцей зрабілі абароне БАТЭ Ліхтаровіч, Булыга, Вусікаў.

У другім тайме нашы прыбавілі ў хуткасці. Абарона гасцей ужо не спраўлялася. Не выкарысталі свае шансы Павел Бяганскі і Малаш. У адказ з вельмі добрай пазіцыі не трапіў Ліхтаровіч.

Кульмінацыя гульні адбылася на 78 хвіліне. З правага боку збілі Лашанкова, ён падаў на Кабеца, які адкрыў лік 1 : 0.

Госці паспрабавалі аднавіць раўнавагу ў ліку, кінуўшы наперад вялікія сілы. Гэта давала вялікія магчымасці ў контргульні барысаўцам. Не выкарысталі свае магчымасці Грыгараў. За пяць хвілін да канца гульні барысаўцы зноў удала выканалі штрафны. Ганчарык падаў на блізкую штангу Канцавому, і той зняў усе пытанні з канчатковым лікам гульні.

* * *

**Маладзечна 2000 – БАТЭ,** 2:1 (Канцавы 87).

Цяжка зразумець, але гульня ёсць гульня. Барысаўцы не настроіліся на яе. Гуляць у адкрыты футбол з барысаўскай камандай Маладзечна не можа па сённяшні дзень. Таму гаспадары згулялі на контратаках, ад абароны. Такая тактыка прынесла Маладзечна поспех. Гаспадары двойчы забівалі мячы ў пачатках першага і другога таймаў. Забіць мяч у адказ здолеў Арцём Канцавы ў канцы гульні. Гэты пройгрыш БАТЭ толькі абвастрыў барацьбу за медалі.

* * *

**БАТЭ – Шахцёр,** 0:0.

Вынік гульні меў вялікае значэнне. Калі б БАТЭ перамагала, яна набліжалася да Белшыны і гарантавала сябе медалі першынства. Але Шахцёр таксама не жадаў саступаць пятае месца сваім канкурэнтам.

Што тычыцца гульні, то яна пачалася спакойна. Ініцыятывай валодалі гаспадары. Першая небяспечная атака барысаўцаў адбылася на 30-й хвіліне, калі Ганчарык ударыў па варотах салігорцаў. Мяч прайшоў недалёка ад штангі.

Пасля перапынку перавага барысаўцаў павялічылася. Аднак забіць мяч маглі і госці. Так у сярэдзіне другога тайма пасля вуглавога Браняві цкі б'е галавой. Барысаўцаў выратоўвае Лашанкоў, які выбівае мяч з лініі варот.

На 72-й хвіліне Лашанкоў падае вуглавы. Мяч ляціць у вароты, але Юрэвіч закранае яго. У выніку мяч спачатку трапляе ў перакладзіну, потым у штангу, перасякае лінію варот і вылятае ў поле. Гол не быў залічаны. Пазней Доўнар наўмысна згуляў рукой, але суддзя гэтага зноў не заўважае. У выніку Шахцёр з суддзёй у полі і бакавым суддзёй згулялі з БАТЭ з лікам 0:0.

* * *

**Дынама (Менск) – БАТЭ,** 2:0.

К апошняму туру каманды падышлі з амаль аднолькавымі паказчыкамі. Каб стаць другімі, адной і другой камандзе патрэбна была толькі перамога.

З самага пачатку гульні гаспадары захапілі ініцыятыву. Ужо на сёмай хвіліне гульні гаспадары павялі ў ліку, вызначыўся Качура. Праз некалькі хвілін Разін трапляе ў штангу.

Толькі пасля 15 хвілін госці прыходзяць у сябе. Лашанкоў падае вуглавы – Цярэнцьеў трапляе ў перакладзіну. Далей "Дынама" саступае тэрыторыю, гуляе на контратаках. Валадзянкоў на 27-й хвіліне праходзіць па леваму флангу, аддае мяч Качуру, лік становіцца 2:0.

Напрыканцы першага тайма Канцавы мог вызначыцца, але прамарудзіў з ударам.

У другой палове гульнявая ініцыятыва поўнасцю належыла гасцям, але моманты так і засталіся момантамі. За сем хвілін да канца гульні Цярэнцьеў меў добрую магчымасць забіць, але мяч прайшоў значна вышэй.

* * *

Зараз у розных футбольных клубах Расіі гуляюць наступныя былыя гульцы БАТЭ: Леанід Лагун гуляе ў "Тарпеда" Масква, Васілій Хамутоўскі выступае ў складзе "Дынама" (Масква), Вадзім Скрыпчанка змагаецца ў Эліцінскім "Уралане", Юры Ціхміраў выступае за "Хімкі", а Аляксандр Баранаў – за "Лакаматыў" (Ніжні Ноўгарад).

* * *

У першынстве Беларусі па футболу па-за межамі горада гулялі Анатоль Будаеў (Шахцёр) і Ігар Балін (Славія). Будаеў удзельнічаў у дзевяці гульнях, мае тры папярэджанні. Балін удзельнічаў у адзінаццаці гульнях, мае чатыры папярэджанні.

* * *

У наступным годзе ФК Тарпеда (Жодзіна) будзе гуляць у вышэйшай лізе. Каманда здолела вярнуцца ў яе толькі праз дзевяць гадоў. Сёлета ў складзе жодзінцаў даволі паспяхова гулялі Аляксей Дзёмін і Артур Суакян.

### Вынікі гульцоў БАТЭ на першынстве Беларусі па футболу

| Брамнікі | Г | П/М | П | У | |
|---|---|---|---|---|---|
| Аляксандр Фёдаровіч | 17 | 20 | - | - | |
| Юры Жыўноў | 9 | 11 | - | - | |
| **Абаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Генадзь Мардас | 25 | - | 1 | 5 | - |
| Уладзімір Нявінскі | 20 | 1 | 2 | 2 | - |
| Віталь Рагожкін | 16 | 2 | 6 | 3 | - |
| Віктар Ганчарэнка | 14 | - | 1 | 1 | - |
| Дзмітры Малаш | 15 | 1 | 1 | 1 | - |
| Віталь Панасюк | 9 | - | - | - | - |
| Сяргей Кузняцоў | 1 | - | - | - | - |
| **Паўабаронцы** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Аляксей Бага | 25 | 1 | - | 5 | - |
| Яўген Лашанкоў | 24 | - | 4 | 1 | - |
| Аляксандр Лісоўскі | 15 | - | 2 | 1 | - |
| Аляксандр Цярэнцеў | 15 | - | - | 1 | - |
| Леанід Лагун | 13 | 4 | 4 | 1 | - |
| Сяргей Міронччык | 13 | - | - | 1 | - |
| Аляксандр Кабец | 11 | 2 | 1 | 1 | - |
| Алег Аляшкевіч | 7 | 2 | 1 | - | - |
| Аляксандр Ермаковіч | 3 | - | - | - | - |
| Аляксей Дзівакоў | 1 | - | - | - | - |
| **Нападнікі** | **Г** | **З/М** | **Пс** | **П** | **У** |
| Арцём Ганчарык | 23 | 7 | 8 | - | - |
| Вячаслаў Грыгараў | 23 | 2 | 1 | - | - |
| Павел Бяганскі | 19 | 8 | 3 | - | - |
| Віталь Кутузаў | 18 | 14 | 9 | - | - |
| Арцём Канцавы | 18 | 7 | 2 | 1 | - |
| Уладзімір Таран | 3 | - | 1 | - | - |

Г – гульні, П/М – прапушчана мячоў, З/М – забіта мячоў, Пс – пасы, П – папярэджанні, У – удаленні.

### Выніковая табліца розыгрышу першынства Беларусі па футболу

| Каманда | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Белшына (Бабруйск) | 17 | 4 | 5 | 43:20 | 55 |
| 2. Дынама (Менск) | 16 | 5 | 5 | 52:21 | 53 |
| 3. БАТЭ (Барысаў) | 16 | 3 | 7 | 54:31 | 51 |
| 4. Нёман–Белкард (Горадня) | 14 | 8 | 4 | 44:20 | 50 |
| 5. Шахцёр (Салігорск) | 13 | 7 | 6 | 43:24 | 46 |
| 6. Гомель | 13 | 5 | 8 | 36:24 | 44 |
| 7. Славія (Мозыр) | 13 | 5 | 8 | 49:27 | 44 |
| 8. Тарпеда-МАЗ (Менск) | 10 | 7 | 9 | 31:32 | 37 |
| 9. Днепр-Трансмаш (Магілёў) | 8 | 7 | 11 | 29:37 | 31 |
| 10. Маладзечна-2000 | 8 | 5 | 13 | 23:47 | 29 |
| 11. Дынама (Бярэсце) | 8 | 5 | 13 | 26:38 | 29 |
| 12. Лакаматыў-96 (Віцебск) | 4 | 7 | 15 | 18:51 | 19 |
| 13. Нафтан (Наваполацак) | 4 | 2 | 20 | 18:51 | 14 |
| 14. Ведрыч-97 (Рэчыца) | 2 | 2 | 22 | 17:60 | 8 |

**Г** - гульняў, **В** - выйграна, **Н** - нічыіх, **П** - паразаў, **М** - колькасць забітых і прапушчаных мячоў, **А** - ачкі.

## Гайна

У канцы кастрычніка барысаўская "Гайна" здолела заваяваць суперкубак Менскай вобласці. На гэты раз барысаўцы перамаглі каманду "Зорка" з Мар'інай Горкі з лікам 2 : 0 (галы ў "Гайны" забілі Аляксей Круглік і Сяргей Свядыш).

***Міні-футбол***

У гэтым годзе Барысаў будзе прадстаўлены па фут-залу. Каманда "Барысаў-900", якая ў асноўным складзена з гульцоў "Гайны", будзе гуляць у першай лізе. Трэцяга лістапада барысаўцы згулялі сваю першую гульню з камандай "Прамень" (Гарадок) і перамаглі з лікам 5:4.

Матч "Барысаў 900" – "Эканаміст" скончыўся з лікам 8:2. 17 лістапада "Барысаў-900" прымаў ЦКК-2 і перамог з лікам 15:4.



***Спартыўная гімнастыка***

У межах алімпійскіх дзён моладзі першага і другога лістапада адбыліся спаборніцтвы па гімнастыцы. У іх прынялі ўдзел дзяўчаты з Барысава.

У класе кандыдатаў у майстры спорту ў раздзеле мнагабор'я першае месца заняла Вольга Бараўля, якая вучыцца ў 8-м класе 11-й школы. Другое месца таксама заняла барысаўчанка Таццяна Жукоўская, што вучыцца ў 8-м класе 8-й школы. Трэніруе дзяўчат Красікаў Ігар Генадзевіч.

У малодшай узроставай катэгорыі першае месца заняла Таня Кулеш (1-ы клас 2-й школы), другое месца Насця Біцель (2-і клас 13-й школы), трэцяе месца – Ліза Вашэсцюк (2-і клас 13-й школы). Трэніруе дзяўчат Шчэрба Святлана Мікалаеўна.

***Баскетбол***

У першай мужчынскай лізе Беларусі па баскетболу, якая нядаўна распачалася, за апошні час адбыліся наступныя матчы з удзелам барысаўцаў:

**Папірус (Барысаў) – ОЗАА (Менск),** 84 : 89;

**Папірус (Барысаў) – Аўтазаводзец (Менск),** 105 : 84;

**Папірус (Барысаў) - БК (Менск),** 80:131;

**Папірус (Барысаў) - БДУ (Менск),** 66:87;

**ВАР (Горадня) - Папірус (Барысаў),** 101:64.

* * *

На жаночым першынстве Беларусі адбыўся матч **Бярэзіна (Барысаў) – Гомель,** 78:44, 83:50.

У першых гульнях барысаўчанкі ўпэўнена перайгралі гамяльчанак. Па гэтых гульнях ужо можна меркаваць, што баскетбалісткі "Бярэзіны" знаходзяцца ў добрай спартовай форме.

* * *

У складзе зборнай Беларусі па баскетболу барысавец Быстры заняў трэцяе месца на першынстве Еўропы з узростам удзельнікаў 1984 – 1985 г.г. Зараз ён выступае за РТІ.

* * *

На пачатку лістапада ў межах алімпійскага тыдня прайшлі гульні сярод юнацкіх каманд Менскай вобласці па баскетболу. Юнакі і дзяўчаты нашага горада на спаборніцтвах занялі першае месца і трапілі ў фінал.

* * *

Барысаўскія баскетбалісты Мікалай Факееў і Алег Дзятліковіч выступаюць за каманду "Аранж" (Менская вобласць). Кацярына Камарова выступае за каманду "Бярэзіна – Акадэмія".

* * *

З 10 па 31 кастрычніка ў межах гарадской спартакіяды сярод школ горада праходзіла першынство Барысава па баскетболу. Гульні праходзілі ў дзвюх групах. У першай удзельнічалі школы з колькасцю да 1000 вучняў, у другой – школы, у якіх звыш 1000 вучняў.

У першай групе ў спаборніцтвах паміж юнакамі месцы размеркаваліся наступным чынам:
першае месца – СШ №19;
другое месца – СШ № 2;
трэцяе месца – СШ № 17.

Сярод дзяўчат вынікі наступныя:
першае месца – СШ №11;
другое месца – СШ № 3;

(Заканчэнне на стар. 15)

*Старонку падрыхтаваў С. Чарнуха*

# Спартыўны агляд

(Заканчэнне, пачатак на стар. 14)

трэцяе месца – гімназія № 3.

У другой групе юнакі паказалі наступныя вынікі:
першае месца – СШ № 20;
другое месца – СШ № 7;
трэцяе месца – гімназія № 1.

Дзяўчаты мелі вынікі:
першае месца – гімназія №1;
другое месца – СШ № 24;
трэцяе месца – СШ № 20.

**Валейбол**

Прайшло першынство Барысава сярод школ горада, у якіх больш за 1000 вучняў па юнацкаму валейболу. Месцы размеркаваліся наступным чынам:
першае – СШ № 23;
другое – СШ № 22;
трэцяе – гімназія № 1;
чацвёртае – СШ № 20;
пятае – СШ № 16;
шостае – СШ № 7;
сёмае – СШ № 17.

**Грэка-рымская барацьба**

8 – 10 лістапада ў Маладзечна прайшла спартакіяда Менскай вобласці па грэка – рымскай барацьбе. Каманда Барысава заняла другое месца ў агульнакамандным заліку. Барысаўцы Вадзім Гарбач і Юры Ажыгаў занялі першыя месцы ў асабістым заліку.

**Бокс**

Алег Какшынскі заняў першае месца ў спаборніцтвах па боксу, якія праходзілі ў межах алімпійскіх дзён моладзі Рэспублікі Беларусь.

**Цяжкая атлетыка**

Барысавец Аляксандр Кленьё ў вазе да 105 кілаграмаў заняў першае месца на гульнях алімпійскіх дзён моладзі Рэспублікі Беларусь. Яго вынік 160 кілаграмаў у рыўку і 200 кілаграмаў у штуршку. Сума 360 кілаграмаў. Гэта рэкорд Беларусі сярод юнакоў. Цяпер Аляксандр рыхтуецца да першынства свету сярод моладзі, які адбудзецца ў Неапалі.

У вазе да 77 кілаграмаў трэцяе месца заняў барысавец Дзміцер Нікіфараў. Ён меў вынік у рыўку 125 кілаграмаў, у штуршку 155 кілаграмаў. Агульная вага 280 кілаграмаў.

Нагадваем, што кошт аднаго слова прыватнай аб'явы пры звычайным шрыфце - 40 рублёў, пры выдзяленні аб'явы - 50 руб. Рэдакцыя пакідае за сабою права друку абвестак.

Кошт 1 см² для блочнай рэкламы ў нашай газеце - 120 рублёў (з падаткам на дабаўленую вартасць). Кошт 1 см² рэкламы на першай старонцы - 198 рублёў (з ПДВ).

Усе аб'явы і рэклама друкуюцца выключна па – беларуску.

# Парады ад Наталлі

*Журавіны – ягады, якія можна збіраць тройчы: у верасні, потым – у лістападзе (з надыходам маразоў) і, нарэшце, ранняй вясной. Гэтыя цудоўныя ягады месяцамі не губляюць сваіх якасцяў і добра захоўваюцца ў свежым выглядзе проста ў скрынцы ці драўлянай бачачцы. Набраўшы журавін, не палянуйцеся праверыць іх на радыяцыю, асабліва калі вы збіралі іх на поўдні Барысаўскага раёна.*



Што толькі не робяць з журавін: квас, морс, сок, сіроп, варэнне, кісель, джэм, пасцілу і начынку для цукерак, ядуць з мёдам або цукрам. А паспрабуйце яшчэ:

**Суп з журавін**

Ягады размяць, заліць вадой, накрыць накрывачкай і настойваць 15 хвілін. Потым працадзіць, у адвар дадаць цукру, кавалачкі ачышчаных яблыкаў, давесці да кіпення, уліць разведзены халоднай вадой бульбяны крухмал, зноў давесці да кіпення і астудзіць. Перад тым, як падаць на стол, дадаць смятаны альбо смятанкі.

На 100 г журавін - 500 мл вады, 150 г яблыкаў, 5 г крухмалу, 150 мл смятаны (альбо смятанкі).

**Жэле з журавін з кефірам**

З журавін адціснуць сок. Рэшткі заліць вадой, давесці да кіпення, працадзіць. У адвар дадаць цукар, разведзены ў халоднай вадзе жэлацін, давесці да кіпення, трошкі астудзіць. Уліць кефір і сок, перамяшаць і разліць у кубачкі.

На 100 г журавін - 50 г цукру, 200 мл кефіру, 5 г жэлаціну, 300 мл вады.

# З гаспадарчага дзённіка Ганны Цюндзявіцкай

**Як падтрымліваць афарбаваныя сцены і шпалеры ў чысціні**

Калі вы жадаеце, каб фарбы і шпалеры добра захоўваліся на сценах, належыць праз дзень здымаць з іх пыл мяккай шчоткай з доўгім шчаціннем, замацаванай на палцы, альбо пучком пушыстага пер'я. З ужо забруджаных сцен неабходна спачатку мяшком змахнуць пыл, а потым кавалачкамі з сярэдзіны белага хлеба, лепш за ўсе такімі, у якіх зверху скарынка, злёгку працерці зверху і данізу. Той, хто залішне моцна будзе прыціскаць ці церці ў розныя бакі, яшчэ больш загоніць бруд у шпалеры. Але калі рабіць тое асцярожна зверху ўніз, дык пыл цалкам сатрэцца.

**Як захаваць пачатковы выгляд люстэрка**

Трэба сачыць, каб яно не стаяла там, куды трапляюць сонечныя прамяні ці моцнае цяпло, бо ад гэтага растопліваецца жывое срэбра і на люстэрку ўзнікаюць плямы. Чысціць яго лепш гарэлкай з дробна патоўчаным палашом.

*Перадаў М.Пучыла*

## Прыватныя абвесткі

**Здаецца**

• Лядзішчынскі дом афіцэраў здае камфартабельнае памяшканне ў арэнду , т. 9-82-21.

**Здыму**

• Двухпакаёвую кватэру ў цэнтры з тэлефонам, т. 6-37-15.

• Аднапакаёвую кватэру ў раёне праспекта Рэвалюцыі, вуліцы Чапаева, т. 2-98-55.

• Кватэру з тэлефонам. т. 9-23-78.

**Падаруем**

• Падаруем добрым людзям прыгожых невялікіх шчанят. т. 9-56-86.

**Патрабуюцца**

• Швачкі і закройшчыкі. т. 5-54-33.

**Прадам**

• Тэлефон з АВН, т. 4-64-08.

• Аўтамабіль ГАЗ-24 пасля аварыі. т. 9-84-35.

**Рашаю**

• Кантрольныя работы па матэматыцы і вышэйшай матэматыцы, т. 3-90-60.

**Віншаванне**

• Віншую з днём нараджэння Аніскевіча Сяргея Аляксандравіча. Жадаю творчых поспехаў.
Даўні сябр.

ТУМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ **Купон для бясплатных прыватных абвестак**

Рубрыка (куплю, прадам ці інш.) ____________
Тэкст ____________
Тэлефон ________ Прозвішча ____________
Адрас ____________
Пашпарт _____ № ____________

*Аб'явы без тэлефона і ўказання пашпартных дадзеных не прымаюцца*
*Купон дасылайце на адрас:* **222120, а/я 43, Барысаў-1**

# Крыжаванка

*складзена па матэрыялах гэтага нумара*

**Па гарызанталі:** 1 – тутэйшы футбольны клуб; 2 – тутэйшы баскетбольны клуб; 3 – нападнік БАТЭ; 4 – тутэйшы гурт; 5 – брамнік БАТЭ; 6 – вёска на Барысаўшчыне; 7 – вуліца ў Барысаве; 8 – вёска на Барысаўшчыне; 9 – вёска на Барысаўшчыне; 10 – вёска на Барысаўшчыне; 11 – барысаўскі народны тэатр; 12 – тутэйшы гурт.




## Фотамадэль – гэта прызванне



Барысаў, завулак Млыновы

# Лічбавая крыжаванка

Ніжэй прыведзены пералікі лічбаў, якія згрупіраваны па іх колькасці. Вам неабходна падабраць і запісаць у незафарбаваныя радкі і слупкі лічбы такім чынам, каб супалі іх усе перасячэнні.

**9:** 485573012, 495315894;

**8:** 04831254, 27291150, 44955910, 96524451;

**7:** 2246274, 2541652, 4159437, 4520489;

**6:** 304625, 409148, 520014, 534212, 627461, 654025, 698554, 994015;

**5:** 21789, 24597, 26542, 40216, 45296, 45779, 52169, 53124, 63330, 77134;

**4:** 1102, 1320, 1356, 1642, 1792, 2002, 2002, 2084, 2324, 2452, 2789, 4122, 4156, 4329, 4554, 4556, 4604, 4631, 4761, 4979, 5432, 5454, 5743, 5922, 6452, 7567, 7789, 8444.

**3:** 101, 123, 147, 177, 184, 221, 222, 282, 342, 405, 433, 447, 456, 467, 477, 512, 524, 538, 554, 555, 565, 567, 632, 701, 790, 819, 888, 999.

**2:** 17, 24, 25, 27, 38, 41, 64, 65, 74, 77, 92, 97.




# Падведзены вынікі конкурсу для заўзятараў футбола



Завершаны конкурс для заўзятароў футбола. У ім прыняло ўдзел 32 удзельнікі, якія мелі 38 ўмоўных назваў. Яго пераможцам стаў **Віктар Бойка** (БАТЭ-Юні). У яго 28 ачкоў. За ім у сямёрку тых, хто набраў найбольшую колькасць ачкоў увайшлі:

**2. Ігар Балаболаў** (Вікінг) – 27 ачкоў;

**3. Сяргей Аніскевіч** (ФК "Палімiз") – 23 ачка;

**4. Сяргей Пыжык** (Жыве Беларусь) – 23 ачка;

**5. Сяргей Корсук** (СКН) - 20 ачкоў;

**6. Мікалай Камінскі** (А) – 18 ачкоў;

**7. Аляксандр Ефіменка** (ТОЭ-3) – 15 ачкоў.

Па выніках конкурса два яго удзельнікі, якія набралі найбольшую колькасць ачкоў (Віктар Бойка і Ігар Балаболаў), будуць узнагароджаны прызамі . Акрамя таго, усе найбольш актыўныя ўдзельнікі конкурсу (**Віктар Бойка, Ігар Балаболаў, Сяргей Аніскевіч, Сяргей Пыжык, Сяргей Корсук і Мікалай Камінскі**) узнагароджваюцца падпіскай на першае паўгоддзе 2002 года на газету "Гоман Барысаўшчыны".

Узнагароджанне адбудзецца ў суботу 8 снежня ў $15^{00}$ у памяшканні СШ № 18. Падрабязней пра ўзнагароджанне пераможцаў чытайце ў наступным нумары нашай газеты.

Супрацоўнікі газеты жадаюць ўсім поспеху ў далейшых конкурсах для заўзятараў футбола, што будуць праводзіцца на старонках нашай газеты.

# Японская крыжаванка

У японскай крыжаванцы неабходна адгадаць не словы ці размяшчэнне лічбаў, а выяву. Лічбы паказваюць, колькі груп чорных клетак знаходзяцца ў адпаведным радку або слупку і колькі суседніх чорных клетак утрымлівае кожная група. Групы падзелены паміж сабою не менш чым адной пустой клеткай. Пустыя клеткі могуць быць і па краях поля.



# Ці ведаеце вы, што...

Па стану на **1910** год у Барысаве было **32** прадпрыемствы. У лік дзесяці найбуйнейшых з іх (па колькасці тых, хто там працаваў) уваходзілі:

1. Запалкавая фабрыка "Вікторыя" – 400 чалавек;
2. Запалкавая фабрыка "Бярэзіна" – 300 чалавек;
3. Лесапільны завод Вялікіх князёў Мікалая і Пятра Мікалаевічаў - 200 чалавек;
4. Крыштальная фабрыка - 160 чалавек;
5. Лесапільны завод Гутмана - 150 чалавек;
6. Папяровая фабрыка "Папірус" - 100 чалавек;
7. Дрожджава - вінакурны завод - 100 чалавек;
8. Гліняна – ганчарна – посудная фабрыка Мазо - 40 чалавек;
9. Паравы млын - 40 чалавек;
10. Фабрыка шавецкіх калодак Рабіновіча і інш. - 30 чалавек.

У лік дзесяці найбуйнейшых на той час прадпрыемстваў горада (па суме прадукцыі, што выраблялася) ўваходзілі:

1. Запалкавая фабрыка "Вікторыя" – 900 тысяч рублёў у год;
2. Запалкавая фабрыка "Бярэзіна" – 300 тысяч рублёў у год;
3. Крыштальная фабрыка - 170 тысяч рублёў у год;
4. Паравы млын - 158 тысяч рублёў у год;
5. Лесапільны завод Вялікіх князёў Мікалая і Пятра Мікалаевічаў - 138 тысяч рублёў у год;
6. Папяровая фабрыка "Папірус" - 130 тысяч рублёў у год;
7. Лесапільны завод Гутмана - 120 тысяч рублёў у год;
8. Фабрыка шавецкіх калодак Рабіновіча і інш. – 26 тысяч рублёў у год;
9. Фабрыка сядзенняў для стулаў - 26 тысяч рублёў у год;
10. Лакавая і палітурная фабрыка - 26 тысяч рублёў у год.

## Адказы на крыжаванкі, што былі змешчаны ў "ГБ" № 10(31)

Крыжаванка па матэрыялах № 10(31): 1 - Барань; 2 - Федаровіч; 3 - Бярэзіна; 4 - Старабарысаў; 5 - Відарыс; 6 - Гайна; 7 - Калінаўка; 8 - Кузняцоў; 9 - Лісоўскі; 10 – Дымкі; 11 – Забашавічы; 12 – Карсакавічы; 13 – Бродня; 14 – Печы; 15 – Дудзінка, 16 - Грыгараў.






ГОМАН БАРЫСАЎШЧЫНЫ

Рэгістрацыйны нумар 595

Заснавальнікі: І.Белы, У.Буйко, У.Дубаневіч, М.Мацельскі, М.Пучыла.

Рэдактар М.Мацельскі

Юрыдычны адрас рэдакцыі: г. Барысаў, 1-ы зав. К.Лібкнехта, 1

Наклад 3000 паасобнікаў

Падпісана ў друк 20.30 25.11.2001 г.
Замова № 7248
Друкарня імя 1-га Мая
г. Барысаў, вул. Будаўнікоў, 33
e-mail: gomanbar@irex.minsk.by

*Адрас для пісьмаў: 222120, Барысаў-1, а/с 43*